



# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

30 студзеня 2015 года №5 **(1031)**




## *Месяцавы каляндар*
## *садавода і агародніка на другое паўгоддзе 2015 года*





**НАВІНЫ РЭГІЁНА**

### У “Зубраняці” спаборнічаюць юныя вакалісты

**МЯДЗЕЛ.** Ад 10 студзеня ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры “Зубраня” праходзіць фінал конкурсу юных вакалістаў “Звонкая раніца-5”. Сярод амаль сарака ўдзельнікаў тры мядзельцы: **Кацярына Ардынец, Аляксандр Нікіценка, Ілья Семяненка.** Для фіналістаў праводзяць занняткі па вакале і харэаграфіі, майстар-класы па сцэнічным руху і маўленні. Адбыліся два справаздачныя канцэрты, якія можна паглядзець на сайце праекта.

### Падлеткі сталі ініцыятарамі “Антынаркатычнага атрада”

**МЯДЗЕЛ.** Падлеткі з Крывіцкай установы закрытага тыпу ў даступнай форме на сваім прыкладзе хочуць растлумачыць аднагодкам, у чым шкода ўжывання наркотыкаў і іх распаўсюджання. Многія раней самі ўжывалі іх. Таксама ў Крывічах адбыўся спартыўны турнір сярод зборнай каманды навучэнцаў Мядзельскага раёна і выхаванцаў Крывіцкай установы закрытага тыпу. Падлеткі спаборнічалі ў 10 практыкаваннях. Перамогу з перавагай у адзін бал атрымала каманда з Крывічоў.

### У Гальшанах пачынаецца рэканструкцыя замка

**АШМЯНЫ.** У 2015 годзе пачнуцца працы па рэстаўрацыі паўночнай вежы Гальшанскага замка. Да сённяшняга дня замак быў закансерваваны. На кансервацыю за два гады было накіравана каля 4 мільярдаў рублёў. Фінансаванне работ прадугледжана ў рамках праграмы “Культура Беларусі”.

### Прызначаны пракурор Астравецкага раёна

**АСТРАВЕЦ.** Ад 19 студзеня 2015 года **Уладзімір Лось** назначаны пракурорам Астравецкага раёна. Ён нарадзіўся 15 сакавіка 1985 года ў Смаргонскім раёне. У 2002 годзе паступіў у Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь на спецыяльнасць “Дзяржаўнае кіраванне і права”. Працоўную дзейнасць Уладзімір Лось пачынаў у якасці стажора ў пракуратуры Астравецкага раёна. Са студзеня 2008 года працаваў тут на пасадзе памочніка пракурора. З лютага 2012 года па студзень 2015 – намеснік пракурора Ашмянскага раёна.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Віктара КАЗЛОЎСКАГА.

**Фотаздымак жураваў зроблены ў мёрскім заказніку “Ельня”. У чысцінскім заказніку аматары фотапалявання таксама змогуць убачыць гэтых прыгожых птушак.**

# Заказнік у Чысці паўтарае спрадвечны ландшафт Маладзечаншчыны

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы водна-балотны заказнік “Чысць” створаны ў Маладзечанскім раёне, каля вёскі Раеўка.**

Уім растуць рэдкія пароды дрэў і жывуць яшчэ больш рэдкія пароды птушак.

Але гэта не адзінае, чым вылучаецца заказнік у Чысці. Як кажа **Уладзіслаў Чарноў**, начальнік Маладзечанскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, чысцінскі заказнік паўтарае спрадвечны ландшафт Маладзечаншчыны.

**85 працэнтаў тэрыторыі заказніка займаюць лясы, 15 працэнтаў – балоты.**

– Умовы, якія стварыліся ў заказніку, цалкам характарызуюць стан балот, які быў да таго, як сюды прыйшлі меліяратары.

### У 70-я гады пажар знішчыў вялізную тэрыторыю

Гісторыя заказніка ў нечым нават трагічная. У 1970-х гадах тут месцілася торфапрадпрыемства. І аднойчы ўзнік буйны пажар.

– Наколькі бачыць вока выгарала зямля, – распавядае Уладзіслаў Чарноў. – Каб патушыць тарфянік, ваду чэрпалі жалезнымі трубамі з вадаёмаў. Вада выходзіла ў разлівы. Жывёлы сышлі і птушкі зляцелі адсюль.

Але час ішоў, амаль трыццаць гадоў спатрэбілася прыродзе, каб больш ці менш аднавіцца. У пачатку 2000 гадоў сюды вярнуліся жураўлі.

**Плошча заказніка – 1455 гектараў лясоў і балот у міжрэччы Рыбчанкі і Верадоўкі.**

Сёння ў заказніку галоўныя пароды дрэў – гэта сасна, елка і бяроза, чорная вольха, вярба. На тэрыторыі заказніка расце 430 відаў папараці, хвашчу, хваёвых і кветкавых раслін.

У заказніку водзяцца 6 відаў земнаводных, 4 віды паўзуноў, 69 відаў птушак (з іх шэры журавель, драч і сокал-каршачок, якія занесеныя ў Чырвоную кнігу), 23 віды млекакормячых (гэта і вожыкі, і лісіцы, і ласі, і нават алені). 16 відаў птушак маюць еўрапейскі ахоўны статус.

### Чаго нельга рабіць у заказніку

У заказніку забаронена праводзіць меліярацыю, складзіраваць адходы, весці будаўніцтва, секчы лес, нельга захоўваць мінеральныя ўгнаенні і хімічныя сродкі аховы раслін, высаджваць чужародныя лясныя культуры, займацца сельскай гаспадаркай, размяшчаць жывёлагадоўчыя комплексы.

– А вось што можна рабіць, дык гэта збіраць грыбы і ягады, – падсумаваў Уладзіслаў Чарноў. На сённяшні дзень у Маладзечанскім раёне створаны чатыры заказнікі: ландшафтны заказнік “Бортнікі”, гідралагічны “Рака Вязынка”, біялагічны “Сасна Веймутава” і водна-балотны “Чысць”.

**Наталля ТУР.**

УЧЫНАК

# Юная смаргонка вярнула знойдзены кашалёк з буйной сумай

## Яна паставіла сябе на месца чалавека, які згубіў грошы

**Пра гэту гісторыю ў Вілейскім дзяржаўным каледжы дазналіся толькі тады, калі прыйшоў ліст ад мінчанкі Галіны Драбышэўскай:**

"Не магу не напісаць гэты ліст у знак падзякі вашай навучэнцы **Алёне Дубязе**. 18 студзеня я выпадкова ў дызелі Гудагай-Маладзечна згубіла кашалёк з вялікай сумай грошай, трыма банкаўскім карткамі з кодамі, карткай "Еўраопт", блакнотам з патрэбнымі запісамі. Алёна адшукала мяне па тэлефоне і бескарыслівa вярнула кашалёк. Прашу адзначыць гэты рэдкі ўчынак у цяперашні час – як прыклад іншым. Жадаю гэтай дзяўчыне ўдачы і поспехаў ва ўсім. Хай у Вашым каледжы вучацца прафесіяналы справы і прыстойнасці!"


Фота забяспечана Святланай МАЦКЕВІЧ.

Алёна Дубяга, навучэнка Вілейскага дзяржаўнага каледжа, знайшла кашалёк з вялікай сумай грошай і вярнула яго ўладальніцы. Як добра, што ёсць такія людзі.

### Знайшла ўладальніцу з дапамогай нататніка

Пачалося ўсё з таго, што 18 студзеня Алёна ехала са Смаргоні на вучобу ў каледж. Калі выходзіла з цягніка ў Маладзечне, знайшла чорны кашалёк.

Каму ён належыць – не здагадаешся (толькі калі ўжо знайшла ўладальніцу, высветлілася, што тая сядзела побач і выйшла раней).

У кашальку было шмат двухсоттысячных купюр. Колькі дакладна – дзяўчына нават і не ведае, грошы не пералічвала. Яшчэ там былі банкаўскія карткі і нататнік. Па прыездзе ў Вілейку стала тэлефанаваць па знойдзеных у ім нумарах. Урэшце патрапіла на дачку ўладальніцы кашалька. Прызначылі сустрэчу. Ёй і аддала кашалёк.

Пра гэту гісторыю расповала педагог-арганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч**. Запытала яна ў Алёны, ці прыходзіла той у галаву думка пакінуць грошы сабе?

**– Ні ў якім разе, – адказала дзяўчына. – Я паставіла сябе на месца чалавека, які згубіў грошы. І мне захацелася яму дапамагчы.**

### У каледжы заахвоцяць Алёну

Дзяўчына са Смаргоні вучыцца ў каледжы на першым курсе. І вучыцца добра. Асвойвае Алёна спецыяльнасці швачкі і цырульніка: ствараць прыгожыя прычоскі ёй хацелася з дзяцінства. Прыгожа дэкламуе вершы – удзельнічала ў аглядзе мастацкай самадзейнасці.

У каледжы вырашылі за добры ўчынак заахвоціць Алёну матэрыяльна, дадала Святлана Мацукевіч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Новыя поспехі Сашкі

## Слова "мама" кажа выдатна і больш упэўнена стаіць на ножках

**МЯДЗЕЛ. "Рэгіянальная газета" працягвае сачыць, як чатырохгадовая Аляксандра Якушэнка робіць крокі на няпростым шляху змагання з хваробамі.**


Фота забяспечана Наталляй МАЦКЕВІЧ.

**Аляксандра Якушэнка прайшла трэці курс рэабілітацыі.**

Дзяўчынцы з курортнага пасёлка Нарач (Купа) адразу паставілі дыягназ гідрацэфалітны сіндром. Потым на фоне гідрацэфаліі застаўся дзіцячы цэрэбральны параліч.

Мама Сашы **Наталля Мацкевіч** расказала, што дачка прайшла ў снежні трэці курс рэабілітацыі ў клініцы ў Трускаўцы (Украіна). Вярнулася адтуль з новымі дасягненнямі:

– Сашка стала больш упэўнена стаяць на ножках. У яе мове з'явіліся новыя склады, і гаворыць яна іх не ціхенька, а выразна. Слова "мама" кажа выдатна і гучна. Стала гуляць сама, прыдумвае якія-небудзь гульні. Заняткі па лячэбнай фізкультуры прайшлі ў Сашкі без адзінай слязінкі, а наадварот – з усмешкай.

Галоўнае, што тазавыя суставы паставяць на месца, без хірургаў, і потым яна ўжо зможа хадзіць, а не боўтацца. Курс быў цудоўны. Спадзяёмся, што да 9 сакавіка збяром сродкі на наступны.

Мама Сашы ад чыстага сэрца дзякуе ўсім, хто адгукнуўся на просьбу аб дапамозе:

– Усім вялікі дзякуй за дапамогу і падтрымку! Без вас мы б такога не дамагліся.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Як можна дапамагчы

**Рэквізіты дабрачыннага рахунка ў цэнтры банкаўскіх паслуг №619 ААТ "ААБ "Беларусбанк"** г. Мядзел, вул. Набярэжная, д. 4, УНП 600198997, МФО 153001769

– беларускія рублі – транзітны рахунак №3819382190343 на дабрачынны рахунак №000009 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы;

Назначэнне плацяжу: Мацкевіч Наталлі Рыгораўне, на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны.

**Адрас для паштовага перавода:** 222395, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к. п. Нарач, вул. Кастрычніцкая, д. 13, кв. 28, Мацкевіч Наталлі Рыгораўне. Назначэнне плацяжу: на лячэнне і рэабілітацыю дзіцяці Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны

**EasyPay:** 00344176

**Больш спосабаў дапамагчы – на сайце**




ГРАМАДСТВА

# Грамадскаму аб'яднанню "Экадом" адмовілі на судзе ў іску супраць "Вялес-Міт"

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 студзеня ў судзе Маладзечанскага раёна прынялі рашэнне па справе "Экадома" супраць "Вялес-Міт".**

Суд не задаволіў патрабаванні эколагаў аб спыненні дзейнасці "Вялес-Міт" з-за таго, што яны не далі патрэбнай дакументацыі на незалежную экалагічную экспертызу па будаўніцтве двух свінакомплексаў у Маладзечанскім раёне.

Суд пагадзіўся з пазіцыяй адказчыка, што "Вялес-Міт" не мае належнага праекта свінакомплексаў, – гаворыць юрыст, які абараняў інтарэсы "Экадома", Сяргей Магонаў. – Усе дакументы па будаўніцтве, якія тыя рыхтавалі да грамадскага абмеркавання, выявіліся недапрацаванымі і цяпер у іх уносяць змены.

Пасля дапрацоўкі зноў будзе ацэнены ўплыў праекта на навакольнае асяроддзе, а затым ён будзе перададзены на грамадскую экалагічную экспертызу – так абяцае заказчык. І без гэтага праект не пройдзе дзяржаўную экалагічную экспертызу.

Сяргей Магонаў сказаў, што пакуль невядома, калі дакументы будуць падрыхтаваныя, бо нават прадстаўнік "Вялес-Міт" не ведае гэтага.

Суд спагнаў з "Экадома" як прайграўшага боку чатыры мільёны рублёў у якасці частковай кампенсацыі адказчыку.

З улікам змен у праекце таксама павінна праводзіцца грамадскае абмеркаванне, але гэты момант у заканадаўстве не ўрэгуляваны. Праект могуць адразу перадаць на экалагічную экспертызу.

**Галіна СІНІЦА.**

КУЛЬТУРА

# Мядзельцы сталі лаўрэатамі конкурсу ў Маскве

**МЯДЗЕЛ. Конкурс-фестываль "Маскоўскі час" праходзіў ад 13 да 15 студзеня. У Маскву паехалі мядзельцы Фрыда Савіцкая і Мікіта Сямітка.**

Іх дуэт стаў лаўрэатам трэцяй ступені ў сваёй намінацыі. Мікіта Сямітка да таго ж стаў лаўрэатам трэцяй ступені як саліст.

Рыхтавала іх да конкурсу выкладчыца Мядзельскай дзіцячай школы мастацтваў **Кацярына Цурганава**.

– Конкурс праводзіўся па шасці намінацыях і сабраў каля дзвюх тысяч удзельнікаў, – расказала дырэктар школы мастацтваў **Алена Касарэўская**. – На ім былі прадстаўленыя многія рэгіёны Расіі, краіны СНД.

Дапамагло юным выканаўцам трапіць на конкурс тое, што летась лаўрэатам міжнароднага конкурсу-фестывалю "Славяначка-2014" у Брэсце стаў квартэт "Агеньчыкі", у якім спяваюць Фрыда і Мікіта. Тады мядзельцы атрымалі спецыяльны прыз журы: запрашэнне на конкурс у Маскву.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Многа зэканоміць на скідках, праездзе ў грамадскім транспарце і паслузе ў мабільным "Тонінг" не атрымаецца. Але гэтыя грошы ўсё роўна будуць радаваць.

● НАШЫ ГРОШЫ

# На скідках можна зэканоміць каля 500 тысяч рублёў за год

**А калі браць на работу ссабойкі, а не харчавацца ў сталовых ці кафэ, можна зэканоміць 880 тысяч рублёў. 154 600 рублёў можна зэканоміць, калі вы ездзіце з некалькімі перасадкамі па праязным.**

"Рэгіянальная газета" прапанавала свае спосабы, на чым можна зэканоміць.

**1. Эканомце на скідках у магазінах.**

У лістападзе мы падлічылі, колькі можна зэканоміць на скідках. Цягам месяца чытачка збірала рахункі з магазінаў, дзе мела скідкі. Яна хацела высветліць, ці ёсць у іх выгада.

Жанчына пераважна жыве з дачкой. У мужа праца звязаная з камандзіроўкамі, сын працуе ў іншым горадзе.

У першым магазіне яна набыла тавараў на 739 150 рублёў, у другім – на 884 950 рублёў. Такім чынам, агульная сума пакупак – 1 624 100 рублёў.

У першым магазіне скідка была 5%, у другім – 2%. За месяц у першым магазіне яна зэканоміла 23 350 рублёў, у другім – 17 250 рублёў. У выніку жанчына зэканоміла за месяц – 40 600 рублёў.

"Рэгіянальная газета" падлічыла, што за гэтыя грошы можна набыць сабе комплексны абед. Калі кожны месяц са скідак атрымліваць такую суму грошай, то за год атрымліваецца 487 200 рублёў.

**2. Лепш разлічвайцеся наяўнымі грашмі.**

Калі вы бачыце пэўную суму грошай у вашай кішэні, то адпаведна плануеце колькасць пакупак. Калі ж грошы на картцы, вы іх не бачыце, значнасць іх змяншаецца. Разлічваючыся карткай, вы траціце на 10-30% больш, чым бы расплачваліся наяўнымі грашмі.

– Калі людзі разлічваюцца наяўнымі грашмі, то ім эмацыйна цяжэй развітвацца з імі, – адзначае псіхолаг Маладзечанскіх электрасетак **Таццяна Жданава**. – Таму людзі трацяць значна менш, чым пры разліку карткай.

**3. Эканомце на транспарце.**

Праязны дапаможа зэканоміць, калі вы ездзіце на працу з некалькімі перасадкамі.

Адзін білет на паездку ў аўтобусе каштуе 3 500 рублёў, праязны – 153 400 рублёў.

Тыя, у каго пяцідзёнка, за месяц у сярэднім працуюць 22 дні. Калі палічыць дарогу на працу і назад, то траціца 154 тысячы рублёў за месяц. Калі з дзвюма перасадкамі, то 308 тысяч рублёў. Атрымліваецца, калі вы ездзіце па праязным з некалькімі перасадкамі, то эканоміце 154 600 рублёў.

Калі праца знаходзіцца недалёка ад дома, то лепш прайсціся. Гэта больш карысна для здароўя і дапамажа зэканоміць грошы.

**4. Бярыце ссабойкі, менш харчуйцеся ў кафэ і сталовых.**

На ссабойку можна ўзяць тое, што прыгатавалі звечара. У сярэднім комплексны абед каштуе каля 40 тысяч рублёў. У месяц атрымліваецца 880 тысяч рублёў за 22 працоўныя дні. Але частку ад гэтых грошай усё роўна прыйдзецца аддаць на прадукты, каб прыгатаваць сабе абед.

**5. Эканомім электраэнергію.**

Своечасова пазбаўляйцеся ад накіпу ў чайніку, калі ён забруджаны, то "выцягвае" з электрасеткі на 10% больш электрычнай энергіі.

Працірайце пыл з плафонаў і лямпачак – у пакоі зробіцца святлей прыкладна на 10-15%.

Такія экалагічныя парады дае Цэнтр экалагічных рашэнняў.

**6. Адключыце непатрэбныя паслугі ў мабільным тэлефоне.**

Напрыклад, адключыце рассылку анекдотаў, гараскопа, паслугу "Тонінг". У сярэднім за "Тонінг" знімаюць за месяц 3 600 рублёў. За год атрымліваецца 43 200 рублёў. Не сцягвайце музыку праз тэлефон. Усё гэта вы можаце паглядзець у інтэрнэце з меншымі выдаткамі.

Калі вы хочаце падзяліцца сваімі спосабамі эканоміі, дашліце іх на электронны адрас "Рэгіянальнай газеты" region-news@rh.by альбо ліст у рэдакцыю.

**Галіна СІНІЦА.**

## Колькі грошай зэканоміць адмова ездзіць на грамадскім транспарце

**МАЛАДЗЕЧНА. Месяц без грамадскага транспарту зэканоміць вам да 154 тысяч рублёў. А калі цягам года адмовіцца ад таго, каб пад'ехаць некалькі прыпынкаў?**

Эксперымент з грамадскім транспартам я вырашыла ажыццявіць на ўласным досведзе.

Галоўным аргументам стала тое, што, аказваецца, пешшу нацянькі да працы дабірацца па часе прыблізна так, як і на аўтобусе.

Кожны дзень, калі ішла на працу пешшу, я клала 3 500, а столькі каштуе білет, у асобную кішэню. Тое ж самае рабіла ўвечары, вяртаючыся дадому. Калі цягам дня таксама трэба было некуды ехаць, я, ацаніўшы тое, што да месца назначэння 4 ці 5 прыпынкаў, таксама ішла пешшу. А грошы зноў клала ў кішэню.

У канцы месяца аказалася, што ў маёй скарбонцы больш за 200 тысяч рублёў.

Такім чынам, зрабіўшы няхітрыя матэматычныя падлікі, атрымоўваецца, што за год можна зэканоміць больш за два мільёны рублёў. І купіць за гэтыя грошы ровар.

**Наталля ТУР.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**468 690**

*рублёў каштуе адзін грам золата 958 пробы*

Паводле паведамлення Міністэрства фінансаў

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 22.01 | 29.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 910,00 | **15 210,00** |
| Еўра | 17 240,00 | **17 290,00** |
| Злоты | 3 993,25 | **4 080,48** |
| Расійскі рубель | 228,00 | **227,00** |
| Грыўня | 942,48 | **959,02** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 17450/17580 | 17450/17635 |
| Долар ЗША | 15120/15205 | 15350/15500 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 21.01 | 28.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 138900 | **138900** |
| Сасіскі, 1 кг | 54300 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26500 | **26500** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 40400 | **32500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 114000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13000 | **13900** |
| Грэчка, 0,8 кг | 9500 | **13200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4000 | **3900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 12500 | **10500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 5800 | **5000** |
| Морква, 1 кг | 5800 | **5800** |
| Буракі, 1 кг | 5500 | **5800** |
| Лімоны, 1 кг | 27900 | **24900** |
| Апельсіны, 1 кг | 21500 | **19000** |
| Мандарыны, 1 кг | 19900 | **22000** |
| Памідоры, 1 кг | 33900 | **33900** |
| Агуркі, 1 кг | 36900 | **32000** |
| Перац, 1 кг | 37900 | **39000** |
| Вінаград, 1 кг | 22800 | **32000** |
| Бананы, 1 кг | 17900 | **18000** |
| Хурма, 1 кг | 27900 | **20000** |
| Яблыкі, 1 кг | 10900 | **10000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 28900 | **26000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ДТЗ

# У аварыю трапіў аўтобус са школьнікамі

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося раніцай у панядзелак, 26 студзеня.**

Аўтобус з 48 пасажырамі рушыў з Брэсцкай трасы на Вілейку.

– Былі рэдкія ападкі, галалёдзіца, – тлумачыць начальнік Валожынскай ДАІ **Міхаіл Ліштван**. – Таму пры павароце каля Пяршаяў вадзіцель аўтобуса не справіўся з кіраваннем.

Аўтобус выехаў на сустрэчную паласу руху і пашкодзіў лінію электраперадач.




Фота забяспечана Аленай ДУБАНЕВІЧ.

Аўтобус са школьнікамі трапіў у аварыю ля Пяршаяў. Фота з месца аварыі.

**Ахвяра: "Мы даставалі аскепкі шкла з далоняў, залізвалі ранкі"**

Настаўніца з Вілейкі **Алена Дубаневіч** была ў гэтым аўтобусе і не магла не расказаць пра тое, як пасажыры перажылі аварыю:

– Хочацца сказаць "дзякуй" некаторым адказным службам Валожынскага раёна: якія "не ведалі" пра наймацнейшы галалёд і не далі загад пасыпаць дарогі сумессю, асабліва той даволі аварыйны ўчастак. Дарожнай службе, чый непасрэдны абавязак сачыць за сітуацыяй на дарозе і своечасова прымаць меры. Службе ДАІ, чыя машына прыехала амаль праз паўтары гадзіны. "Хуткай дапамозе", якая не прыехала наогул.

Так, у нас абышлося без сур'ёзных траўмаў, мы справіліся самі.

Мы вычэсвалі аскепкі шкла з валасоў адзін аднаму, вымалі дробныя кавалкі з пальцаў і далоняў, залізвалі невялікія ранкі.

Але абсалютна ўсім вельмі спатрэбіліся б супакаяльныя сродкі, мацнейшыя за валяр'янку і валідол.

**Мы прасядзелі тры гадзіны ў халодным разбітым аўтобусе, не патрэбныя нікому.**

Дарослыя, якія самі былі ў шоку, як маглі супакойвалі дзяцей, якіх было амаль палова пасажыраў. Назіраючы, як каля нас выпісвае піруэты апошні транспарт, мы баяліся, што нехта ўрэжацца ў наш і без таго пацярпелы аўтобус. Дарогу пасыпалі праз дзве з паловай гадзіны. На шчасце, усе вярнуліся дадому жывыя і здаровыя. Кожны зрабіў свае высновы з сітуацыі.

Але да канца жыцця хтосьці будзе памятаць звон разбітага шкла і дождж аскепкаў, якія сыпляюцца на галаву. Хтосьці – зваліўшыся на галаву кавалак шыферу, хтосьці – застыўшы ў сантыметры ад скроні вугал даху. Мы ўсе зрабілі высновы. А хто-небудзь яшчэ высновы зрабіў?

**Тлумачэнне ад службаў**

Сітуацыю пракаментаваў начальнік Валожынскай ДАІ Міхаіл Ліштван:

– Выклік паступіў нам у 6:05, інспектар прыбыў на месца каля сямі раніцы. Другога выкліку не было. Калі ДТЗ адбываецца ў сельскай мясцовасці, мы павінны прыязджаць не пазней, чым праз паўтары гадзіны пасля выкліку. Зразумела, што ў стрэсавай сітуацыі кожная хвіліна цягнецца доўга.

Паводле інфармацыі, якую мы атрымалі, ахвяры аварыі не выклікалі "хуткую дапамогу", ДАІ таксама, таму што пацярпелых не было. Майстра ДРБУ, адказнага за гэты ўчастак дарогі, пакаралі за неналежнае ўтрыманне праезнай часткі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КРЫМІНАЛ

# На Валожынскім ільнокамбінаце згарэла больш за 1000 тон ільнотрасты

## Маладзён падпаліў яе газавай запальнічкай

**ВАЛОЖЫН. Раніцай 25 студзеня на адным са складоў Валожынскага ільнокамбіната адбылося ўзгаранне льнотрасты.**

Да месца пажару неадкладна выехалі супрацоўнікі падраздзяленняў МНС, Следчага камітэта, Міністэрства ўнутраных спраў і Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз.

Паводле папярэдніх ацэнак, знішчана больш за 1000 тон ільнотрасты. Прадпрыемству нанесены ўрон у памеры больш за тры мільярды рублёў.

На першапачатковым этапе расследавання следча-аператыўная група ўстанавіла дачыненне да здзяйснення злачынства 19-гадовага мясцовага жыхара. Яго затрымалі.

У ходзе расследавання ўстанавілі, што падазраваны – былы работнік прадпрыемства. Ён пранік на тэрыторыю, газавай запальнічкай падпаліў ільнотрасту. Пры допыце растлумачыў, што ў момант здзяйснення злачынства знаходзіўся ў раздражнёным стане з прычыны ўжывання спіртных напояў.

Следчыя працягваюць дэталёва аднаўляць карціну здарэння. Сабраная доказная база дазволіла прад'явіць падазраванаму абвінавачванне ў наўмысным знішчэнні маёмасці, што пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры. Яго заключылі пад варту.

**Паводле Следчага камітэта Беларусі.**

## 17-гадовы падлетак абакраў дом дзяўчыны... двойчы

**ВАЛОЖЫН**. Юны Астап Бэндар прыехаў з Клецкага раёна да знаёмай дзяўчыны. Высветліў, "дзе ключы ад кватэры, дзе грошы ляжаць" і абакраў дом.

Пра здарэнне распавёў следчы РАСК Валожынскага РАУС **Ілля Глінскі.**

17-гадовы падлетак прыехаў з Клецкага раёна ў Івянец да знаёмай дзяўчыны ў кастрычніку мінулага года. Пераначаваў у доме новай знаёмай. За вечар агледзеўся, што сям'я жыве добра, спытаўся ў дзяўчыны, дзе яны хаваюць ключы. На раніцу вярнуўся ў дом, скарыстаўся схаваным ключом і скраў тысячу долараў ЗША і два мільёны беларускіх рублёў.

10 студзеня бягучага года хлопец яшчэ раз наведаўся да дзяўчыны. Пасля гэтага візіту ў сям'і зноў знікла вялікая сума грошай.

Супраць хлопца ўзбудзілі крымінальную справу.

**Наталля ТУР.**

СЛУЖБА 101

## Жыхар Краснага загінуў з-за непатушанай цыгарэты

**МАЛАДЗЕЧНА.** 23 студзеня ў 22 гадзіны 54 хвіліны на цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паступіла паведамленне аб загаранні жылога дома ў вёсцы Краснае.

Калі прыбылі выратавальнікі, дом гарэў адкрытым полымем. У выніку пажару знішчаны дах па ўсёй плошчы, перакрыцце ў пакоі, выгараў пакой.

У доме знайшлі загінулага 69-гадовага гаспадара дома.

Прычына пажару высвятляецца. Адной з верагодных прычын узнікнення пажару з'яўляецца неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Ксенія ТАРАТУТА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

ЗДАРЭННІ

## Перавозіў амаль тону самагонкі

**СМАРГОНЬ.** Удзень 20 студзеня ў вёсцы Шутавічы Смаргонскага раёна супрацоўнікі Смаргонскага і Маладзечанскага райаддзелаў унутраных спраў спынілі мікрааўтобус "Фольксваген". У ім перавозілі 910 літраў самагонкі. Кіраваў мікрааўтобусам непрацуючы жыхар вёскі Скаварodкі Маладзечанскага раёна.

У ходзе далейшых мерапрыемстваў у хляве па месцы жыхарства кіроўцы знайшлі і канфіскавалі 1930 літраў спіртазмяшчальнай вадкасці.

**Паводле МУС Беларусі.**

## Ударыў нажом брата

**ВІЛЕЙКА.** Блізу 10 гадзін вечара 10 студзеня 23-гадовы жыхар Ільі ў нецвярозым стане нанёс удар нажом свайму брату. Той старэйшы за крыўдзіцеля на два гады.

Пра акалічнасці здарэння расказаў часовы выканальнік абавязкаў начальніка Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**. Браты ўспомнілі старыя крыўды, у выніку адбыўся канфлікт. Іх расцягнулі. Аднак адзін з братоў скарыстаўся паўзай у высвятленні адносін і ўдарыў нажом другога.

Мужчына атрымаў рэзаную рану. У яго была вялікая страта крыві і пашкоджаны прамянёвы нерв.

Пасля праведзенай праверкі 20 студзеня райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па факце наўмыснага прычынення цяжкага цялеснага пашкоджання ў дачыненні да жыхара Ільі. Ён нідзе не працуе.

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчане палявалі за кабелем

**ВІЛЕЙКА.** Два маладыя віляйчаніны ўвечары 7 студзеня хацелі скрасці сілавы кабель. Яны ўжо адрэзалі кабель з казлавага крана на тэрыторыі лесапункта таварыства "Маладзечналес" у Вілейцы. Аднак забраць здабычу не паспелі – іх спудзіў вартаўнік.

Хлопцаў затрымалі. Падчас расследавання высветлілася, што перад Новым годам яны ўжо кралі адсюль кабель. І хацелі паўтарыць спробу, паведаміў часовы выканальнік абавязкаў начальніка Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў.**

23 студзеня ў дачыненні да віляйчан узбудзілі крымінальныя справы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Праз Ашмянскую мытню замест хларыду калію перавозілі цыгарэты

**АШМЯНЫ.** Калі супрацоўнікі тэрытарыяльных органаў памежнай службы аглядалі састаў цеплавоза з грузам "хларыд калію", то заўважылі на загрузачным люку пашкоджаную пломбу.

Калі адкрылі верхнія люкі, то заўважылі 60 кардонных каробак. Яны былі ўпакаваныя ў чорныя поліэтыленавыя пакеты.

У Літву кантрабандысты хацелі перавезці 29 930 пачак цыгарэт. Папярэдняя сума ацэнкі табачных вырабаў склала каля 300 мільёнаў рублёў. Іх канфіскавалі.

Здарэнне адбылося 25 студзеня.

**Паводле сайта Ашмянскай мытні.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Ці дачакаецца рамонту чыгуначны дом

**МАЛАДЗЕЧНА. "Я купіла кватэру, а ў рамонт уклала ў чатыры разы больш, скардзіцца жыхарка дома №8 па вуліцы Сухой на Лясных. Ужо двойчы рамантавала з розніцай у тры гады!"**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

**Жыхары дома №8 па вуліцы Сухой скардзяцца найперш на інжынерныя сеткі і незаасфальтаваныя дарогі.**

Каб расказаць пра праблемы свайго дома, жыхары выходзілі на вуліцу проста ў тапках. І, падхопліваючы сусед суседа, паказвалі то трэшчыну на фасадзе, то лужыну на ўсю шырыню дарогі, у якой можа сесці машына.

– Вентыляцыя ніякая, усе пахі абсалютна па кожнай кватэры гуляюць. Колькі мы пісалі, колькі гаварылі, так і не зрабілі.

Маладая мама, якая пяць год жыве ў доме, распавядае:

– Купілі кватэру. Выдатны садок побач, непадалёк школа, да цэнтра рукой падаць. Пяць год таму цалкам зрабілі рамонт у кватэры, уцяплілі знутры. Сёння вуглавыя сцены ўсе чорныя. Чорныя плямы ва ўсіх вуглавых кватэрах. Іх усе трэба звонку абавязкова ўцяпляць.

Адно з самых балючых пытанняў – праблемы з каналізацыяй:

– Мы кожны месяц выклікаем рамантаваць. Калі ў Новы год з каналізацыяй праблемы, значыць, Новы год святкуем каля яе.

Жыхары апрацоўваюць сцены ад грыбка, але гэта ратуе толькі на час. У адной з кватэр нарасцілі сцяну на некалькі сантыметраў, бо не змаглі вывесці цвіль.

Галоўныя праблемы, якія хвалююць жыхароў, – капітальны рамонт, у тым ліку інжынерных сетак, і асфальтаванне тэрыторыі каля дома. Тут няма стаянкі, затое ёсць невялічкі агарод, які жыхары раяць перадаць пад месца для машын.

Паводле адказу Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі пяць год таму, у 2010 годзе каля дома павінны былі ўладкаваць пешаходныя дарожкі, а на 2015 запланавалі капітальны рамонт. Але і сёлета жыхары ходзяць па вялізных лужынах і ямінах. Таму і ў тым, што тэрмін капрамонту вытрымаюць, сумняваюцца. Дадае сумневу і тое, што дом перадаюць на абслугоўванне "Камунальніку", ці не адкладзе гэта яшчэ на большы тэрмін капрамонту?

Суседзі наракаюць і на дзіцячую пляцоўку:

– Ці гэта пляцоўка для дзяцей? Тут ці дываны выбіваюць, ці п'юць.

Жыхары скардзяцца і на тое, што электраправады вісяць неахайным клубком у пад'ездзе, што ў кватэры на першым паверсе прасела падлога, а на балконы небяспечна станавіцца. Спадзяюцца, што ўсё ж дойдзе і да іх рамонт.

– Мы ж тут жывём. Паглядзіце, якая тут шэрасць! Ну, чаму б не пафарбаваць дамы, не зрабіць іх яркімі. Ніякага настрою, у дэпрэсію ўганяе. Мы хочам, каб нам выканалі тое, што абяцалі.

АФІЦЫЙНЫ КАМЕНТАР

## Перадача дома "Камунальніку" на рамонце не адаб'ецца

На зварот "РГ" Беларуская чыгунка адказала: "У 2015 годзе з улікам існуючага адставання па тэрмінах пастаноўкі на капітальны рамонт будзе распрацоўвацца перспектыўная Праграма капітальнага рамонту жылёвага фонду Мінскай дыстанцыі грамадзянскіх збудаванняў. Пры фарміраванні праграмы будзе ўдакладнены тэрмін пастаноўкі на капітальны рамонт жылога дома. У план бягучага рамонту на 2015 год плануецца ўключыць работы па рамонце фасада і ўладкаванні пешаходных сувязяў".

Сітуацыю каментуе начальнік ЖРЭУ №4 Мінскай дыстанцыі грамадзянскіх пабудоў Беларускай чыгункі **Ігар Гаспер**.

– Наша служба адказвае за абслугоўванне дома. Па капітальным рамонце я рашэнне не прымаю – гэта паўнамоцтвы Мінскага ўпраўлення. Тэрміны яго правядзення залежаць ад фінансавання. Шмат год запар я падаваў заяўку на бягучы рамонт гэтага дома. Сёння яшчэ няма рашэння, ці зможам правесці бягучы рамонт сёлета.

Сапраўды, паводле распараджэння Прэзідэнта, усе жылыя дамы чыгунка павінна перадаць на абслугоўванне гарадскім структурам. Пасля скасавання нашага ведамства работнікі змогуць перайсці ў іншыя падраздзяленні чыгункі. Гэта адбудзецца паступова. Хаця ў нас не так шмат кватэр, але дамы раскіданы ўздоўж чыгуначнага палатна па чатырох кірунках: гудагайскім, мінскім, лідскім і мядзельскім. Таму працэс зойме час. Два дамы ў Маладзечне ўжо перадалі гарадскому ЖРЭУ №2.

Але перадача дома на абслугоўванне "Камунальніку" ніяк не паўплывае на тэрмін капітальнага рамонту. Мы кансультаваліся са спецыялістам з райвыканкама і атрымалі адназначны адказ. Жыхары плацяць штомесяц на капрамонт, гэта сума збіраецца і пры перадачы дома мы перададзім і сабраныя на капрамонт сродкі. Але тэрмін капрамонту ўжо будзе вызначаць "Камунальнік".

Варта разумець, што толькі за выплаты жыхароў рамонт не зробіш, бо там сума значная. Таму пытанне фінансавання настолькі важнае.

Наша ЖРЭУ займаецца абслугоўваннем унутры дома, і я ведаю, што ўсе скаргі мы вырашаем аператыўна. Сапраўды, пытанні з забітай каналізацыяй часта ўзнікаюць. Але праблемы ўзнікаюць і з-за таго, як каналізацыяй карыстаюцца. Калі забіваецца, мне не саромеюцца і ў дзве гадзіны ночы званіць. Але мы заўсёды знаходзім спосаб, як выправіць сітуацыю. А потым выяўляем прычыну затору і паказваем – бывалі мяккія цацкі, нават слоік з агуркамі. Але праблемы, якія ідуць пасля калодзежа, ужо тычацца гарадскіх службаў.

Наконт сустрэчы з жыхарамі пытання няма. У аўторак і чацвер я заўсёды на рабочым месцы, калі толькі тэрмінова не выклічуць. Ёсць кніга для запісу. Я заўсёды рады людзям. Але не абяцаю тое, што не змагу выканаць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ТЭЛЕБАЧАННЕ

## Пашыраецца трансляцыя тэлеканалаў у лічбавым фармаце

**ВІЛЕЙКА. Ад 26 студзеня у вёсцы Даўгінава запусцілі аўтаматызаваную радыётэлеперадаючую станцыю. Яна транслюе ў лічбавым фармаце агульнадаступны пакет з васьмі праграм. Гэта "Беларусь 1", "АНТ", "Беларусь 2", "СТБ", "РТР-Беларусь", "НТВ-Беларусь", "Беларусь 3", "Мір".**

Трансляцыя ідзе на 44 канале. Гэтаксама як у Мядзеле і вёсцы Любань Вілейскага раёна, расказаў начальнік Мядзельскага цэха ультракароткахвалевых радыёстанцый **Міхаіл Бурак**.

Што праца радыётэлеперадаючай станцыі дасць жыхарам Даўгінава і ваколіц?

– Раней жыхары Даўгінава знаходзіліся ў зоне няўпэўненага прыёму, – патлумачыў Міхаіл Бурак. – Распытвалі ў мясцовых людзей. Хто казаў, што прымаў праграмы чатыры эфірнага тэлебачання – ды з не вельмі добрай якасцю. Да таго ж аналагавае тэлебачанне цяпер паступова па краіне адключаецца. А зараз вяскоўцы могуць прыняць восем праграм у добрай якасці.

Для прыёму неабходна мець тэлевізар з убудаваным лічбавым цюнерам ці набыць прыстаўку стандарту DVB-T. І трэба тэлевізійная антэна дэцыметровага дыяпазону хваль.

Разліковы радыус ахопу тэрыторыі складае каля 20 кіламетраў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У Валожыне адключаць аналагавыя каналы

**ВАЛОЖЫН.** На радыётэлевізійнай перадаючай станцыі ў Валожыне з 1 лютага адключаць аналагавыя тэлевізійныя перадатчыкі дэцыметровага дыяпазону хваляў. Яны транслююць тэлеканалы "Беларусь 1", "АНТ", "СТБ", "РТР-Беларусь".

Агульнадаступны пакет лічбавых праграм можна прыняць у фармаце стандарту DVB-T. Ён транслюецца ў Валожыне на частаце 58 тэлеканала. Да таго ж трансляцыя ідзе з Радашкавічаў Маладзечанскага раёна і з Наваселля Мінскага раёна – на частаце 48 тэлеканала, паведамляе Беларускі радыётэлевізійны перадаючы цэнтр.

Нагадаем, што аналагавыя тэлевізійныя перадатчыкі дэцыметровага дыяпазону хваляў 15 студзеня адключылі на радыётэлевізійных перадаючых станцыях у Целяках (Мядзельскі раён) і Смаргоні.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".** DVB-T – еўрапейскі стандарт эфірнага наземнага лічбавага тэлебачання.

КУЛЬТУРА

## Мядзяльцы сталі лаўрэатамі конкурсу ў Маскве

**МЯДЗЕЛ.** Конкурс-фестываль "Маскоўскі час" праходзіў ад 13 да 15 студзеня. У Маскву паехалі мядзельцы **Фрыда Савіцкая** і **Мікіта Сямітка**.

Іх дуэт стаў лаўрэатам трэцяй ступені ў сваёй намінацыі. Мікіта Сямітка да таго ж стаў лаўрэатам трэцяй ступені як саліст.

Рыхтавала іх да конкурсу выкладчыца Мядзельскай дзіцячай школы мастацтваў **Кацярына Цурганава**.

– Конкурс праводзіўся па шасці намінацыях і сабраў каля дзвюх тысяч удзельнікаў, – расказала дырэктар школы мастацтваў **Алена Касарэўская**. – На ім былі прадстаўлены шмат рэгіёнаў Расіі, краіны СНД.

Дапамагло юным выканаўцам трапіць на конкурс тое, што летась лаўрэатам міжнароднага конкурсу-фестывалю "Славяначка-2014" у Брэсце стаў квартэт "Агеньчыкі", у якім спяваюць Фрыда і Мікіта. Тады мядзельцы атрымалі спецыяльны прыз журы: запрашэнне на конкурс у Маскву.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Ад дрэва такі пах, што рукі самі працуюць

## Бондар з вёскі Бонда адраджае традыцыйнае рамяство

**МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ. Маладзечанец Аляксандр Странкоўскі з нецярпеннем чакае выхадных. Не каб адпачыць, а каб яшчэ папрацаваць. Паехаць у вёсачку Бонда на Мядзельшчыне і заняцца ўлюбёнай справай – бондарствам.**

Зацікавіўся бондарствам ён яшчэ ў дзяцінстве. Глядзеў, як бацька кляпаў бочкі. Але той рана памёр, і навучыць сына гэтай навуцы не паспеў.

### Бондарству навучыў цесць

Праз колькі год Аляксандр ажаніўся. Цесць у вёсцы Бонда шмат чаго рабіў для калгаса на саматробным дрэваапрацоўчым станку. Таксама бочкі кляпаў. Была ў яго свая майстэрня.

– Сам я па спецыяльнасці токар. Цесць кажа: "Ты на станку жалеза точыш, а я табе пакажу, як з дрэвам рабіць". Пайшоў я тачыць калодку. Вытачыў з горам папалам, па руках атрымаў, – усміхаецца Аляксандр. – Разгаварыліся, расказаў, што ў дзяцінстве бондарствам цікавіўся. Цесць прапанаваў паспрабаваць.

Мне і захацелася. Як працаваць з металам, ведаў, а з дрэвам – у навіну было. Цесць усё паказаў. Так і навучыўся.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На кірмашах у майстра з Маладзечна Аляксандра Странкоўскага часта завязваюцца дыскусіі аб бондарстве.

### Бондары з Бонды

Гэта цяпер Бонда – ціхая вёсачка, ажывае толькі ўлетку, калі дачнікі прыязджаюць.

– А раней у Бондзе шмат было бондараў, амаль у кожнай хаце. Можа, таму і вёска мае такую назву? Хаця і іншыя версіі паходжання назвы ёсць, – кажа Аляксандр. – І зараз, у якую хату ні зойдзеш, нешта знойдзеш. Дзе куфар стаіць, дзе бочка пад агуркі. Ад кожнага майстра нешта засталося.

### Дрэва цікавей за метал

Аляксандр усё жыццё працуе токарам, апошнім часам ў таварыстве "Белхол".

**– Вы пастаянна і з металам, і з дрэвам працуеце. А з чым цікавей?**

– Вядома, з дрэвам. Хаця з ім і цяжэй. Трэба акуратна, бо ўсе хібы бачныя. Калі на метале што не так зрабіў, то можна шкуркай зашліфаваць. Але ж цікава. Сёння адно дрэва, заўтра іншае. Калі прыязджаю ў Бонду – такі пах тут, што рукі самі цягнуцца да працы.

Расказвае майстар, што кожнае дрэва пасвойму апрацоўвае, да кожнага трэба свой падыход. Дуб патрабуе моцы ў руках болей. Ліпа мяккая, тут і нажом можна падправіць.

Найлепей бондар любіць працаваць з ядлоўцам.

– Лёгка з ім працаваць, а па-другое, так пахне! Назаўтра пасля працы з ядлоўцам заходзіш у майстэрню як у добрую сауну на травах.

**– Што лічыце самым галоўным для бондара?**

– Цярпенне і яшчэ раз цярпенне. Калі штосьці не атрымліваецца, часам злосць з'яўляецца, але цярпець трэба. Бо мне гэта праца падабаецца: вырабы адзін на адзін непадобныя.

### Квасім капусту ў асінавых бочках

Кожнае дрэва сваё прызначэнне мае. Квасіць капусту – найлепш падыдзе асіна. Саліць грыбы бондар раіць у посудзе з ядлоўцу.

– І захоўваюцца добра, і такі пах, як быццам толькі з лесу прынёс, – кажа.

Для агуркоў і яблыкаў самая лепшая – дубовая бочка. Для мёду – ліпа. Як і для рэчаў для лазні.

### Кумган на вяселле

Асаблівы шык для бондара – зрабіць кумган.

– Раней бондар, які мог зрабіць кумган, лічыўся выдатным спецыялістам. Калі ён жаніў сына – то меркавалі, што дзяўчына ў багатую сям'ю пойдзе.

Кумган – гэта высокі збан з носікам, ручкай і вечкам, які выкарыстоўваецца для падачы на стол розных напояў.

– Калісьці з яго частавалі цароў, вяльмож добрым вінам. Калі з ядлоўцу кумган зрабіць, то квас з яго вельмі смачны будзе.

За дзесяцігоддзі працы майстар асвоіў багаты бондарскі асартымент: ад кубачкаў да бочак, ад кілішкаў да маслабоек.

Цікава яму зрабіць нейкія новыя вырабы:

– Не тое, чаму цесць вучыў ці ў кнізе бачыў. Сваё прыдумаць – гэта справа!

Улетку майстар амаль штотыдзень падарожнічае па святах і кірмашах. Па ўсёй Беларусі ездзіць. Натуральна, у нашым рэгіёне святы не абмінае.

Яго вырабы не толькі па краіне разлятаюцца. Зробленыя бондарам кумганы ў розных кутках свету апынуліся.

Першы кумган, што зрабіў, павезлі ў Амерыку. Летась кумган з кілішкамі паехаў у далёкую Аўстралію. У малады хлопец пераехаў туды з Расіі, ажаніўся. Сваякі са Смаргоні ўбачылі на свяце ў Гальшанах кумган, і на вяселле такі падарунак купілі.

### Хоча вучыць бондарству

Два месяцы засталося Аляксандру Странкоўскаму да пенсіі.

– Напэўна, ужо працаваць не буду. Больш буду бондарствам займацца: так да дрэва цягне, – дзеліцца.

Ёсць у яго планы вучыць бондарству:

– Хочацца якіх школьнікаў з Мядзельшчыны навучыць. Хаця б хлопцаў двух – і тое добра было б.

На пенсіі, як часу болей з'явіцца, хоча бондар новыя вырабы асвоіць. Тую ж купель. І адметную хоча зрабіць, каб клёпкі былі з пяці-сямі відаў дрэў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГІСТОРЫЯ

# Паштоўка нагадае пра Вілейшчыну

**ВІЛЕЙКА. Вілейскі фатограф Міхась Кулеш выдаў 14 паштовак з выявамі Вілейшчыны. На іх пераважна адметныя мясціны горада, прыгожыя берагі Віліі. Ёсць здымкі панскай сядзібы ў Старынках і капліцы роду Радзівілаў у вёсцы Ручыца.**

– Ідэя выдаць паштоўкі з'явілася даўно, – дзеліцца Міхась. – Бо ў нас шмат часу нічога не выдавалася. Было, здаецца, пару паштовак і магнікі з выявай вілейскага касцёла.

Адразу ён збіраўся выпусціць каляндную паштоўку, узяўшы за аснову адзін з зімовых пейзажаў. Але фінансава выпусціць толькі адну аказалася вельмі накладна, таму вырашыў выдаць серыю з чатырнаццаці паштовак. Тыраж кожнай складае 1000 экзэмпляраў.

– Выдаваліся паштоўкі не столькі ў камерцыйных мэтах, колькі для папулярызацыі Вілейшчыны, – падкрэслівае Міхась. – Каб кожны госць горада пры жаданні мог набыць нешта на памяць аб нашых мясцінах.

Пакуль прадаюць паштоўкі ў некалькіх пунктах горада. Але Міхась спадзяецца пашырыць прастору распаўсюджання.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Фота паштовак глядзіце на сайце rh.by.**



Фота Міхася КУЛЕША.

Адна з паштовак – капліца ў Ганусе (Ручыца).

# У Мядзеле прыгадалі гісторыю царквы

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы 23 студзеня прайшоў тэматычны вечар. Ён прысвячаўся 10-годдзю першай літургіі ў новым Свята-Траецкім храме райцэнтра.**

Супрацоўнікі музея распавялі пра гісторыю праваслаўнай царквы ў Мядзеле. Дакументальна яна пацвярджаецца з шаснаццатага стагоддзя. 7 жніўня 1559 года кароль Польскі і Вялікі князь Літоўскі Жыгімонт-Аўгуст па просьбе "папа Мядзельскай Святой Тройцы Максіма Фёдаравіча" дараваў Мядзельскай Свята-Траецкай царкве "дзве валокі зямлі".

Ёсць звесткі, што на месцы старадаўняга храма пабудавалі ў 1715 годзе новы. Царква некалькі разоў перабудоўвалася і гарэла.

У 50-я гады мінулага стагоддзя царкву ў Мядзеле зачынілі і прыстасавалі пад склад. У 1962 годзе будынак храма разабралі на будматэрыялы. Пабудавалі з іх школу ў вёсцы Лотва і спартзалу ў Мядзеле. А на месцы царквы з'явіўся дзіцячы садок.

Падрабязна на вечары расказалі пра тое, як ішла пабудова новага храма. Дэманстравалі здымкі на вялікім экране. Афармілі выставу, прысвечаную памяці іерэя **Адама Ліпскага** (ён пачынаў будаўніцтва храма).

Выступіў благачынны Мядзельскай акругі протаіерэй **Ігар Шалуха**. Сярод іншага ён таксама прыгадаў, як ішло будаўніцтва царквы, падзякаваў усім, хто дапамагаў.

Цягам мерапрыемства спяваў царкоўны хор.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Паэтка Лідзія Гардынец натхненне чэрпае ў куточку на Валожыншчыне

**ВАЛОЖЫН. МАЛАДЗЕЧНА. У Лідзіі Гардынец, як і ў кожнага з нас, ёсць дарагое для яе чуллівай душы, свяшчэннае месца на зямлі. Малая радзіма гэтай творчай натуры, якую яна так узнёсла апявае ў вершах, празаічных творах, – гэта невялікая вёсачка Аўгустова на старадаўняй валожынскай зямлі.**




Лідзія Гардынец, паэтка, пісьменніца, жыве ў Маладзечне. Але ёсць у яе свяшчэннае месца на зямлі – вёсачка Аўгустова на Валожыншчыне, дзе нарадзілася. Ёй, а таксама людзям, што там жывуць, яна прысвяціла нямала вершаў і прозы.

Тут нарадзілася. Тут жывуць яе бацькі, родныя. Парог яе тут, ад якога ў жыццё пайшла.

З журналістыкай марыла звязаць лёс. Толькі так сталася, што ўжо даволі-такі працяглы час працуе ў сферы гандлю. Заўсёды навідавоку. Заўсёды з людзьмі і для людзей.

Паэтычная ж мелодыя прыходзіць у самы розны час. І тады яна, радуючыся госці нябеснай, спяшаецца занатаваць паэтычныя радкі.

У невялікім паэтычным зборніку “Саламяны капялюшык”, ёсць радкі:

*Я ўсё жыццё*
*начамі сніла*
*Пад хатай бэз,*
*за хатай – вяз,*
*Не ведала, якая сіла*
*Звязала гэтак*
*моцна нас.*

Гэтыя радкі з верша “Я ўсё шукаю тую сцежку”, як іншыя, шчырыя, цёплыя, добрыя, сведчаць аб непарыўнай сувязі яе, паэткі, з тым, што з маленства знаёма, блізка і дорага да слёз.

Прадмову да зборніка, як і да кнігі “Ад твайго парога”, у якой ужо як паэзія, так і проза, напісаў вядомы пісьменнік і краязнаўца **Міхась Казлоўскі**, хто умее заўважыць талент, своечасова і шчыра падтрымаць яго.

У акордах дзіўнай музыкі прыроды ёй бачацца, як ніткі срэбных дажджынак вышываюць зелень траў, як жоўты чмель у роснай траве п'е сонейка. Тут чуцен хлебны водар зямлі.

Сама мяркуе, што вельмі добра, што з такім цудоўным краем “адна песня выйшла”. Прызнаецца: тут заўсёды ўсім хапала як месца, так і сонца: чалавеку, зверу ў лесе, птушцы ў сінім небе, белай бярозцы пад акном…

І сэрца напаўняе трапяткая любоў да Радзімы-матухны. А пачыналася яна для Лідзіі Гардынец з матчынай мовы, якую чула “у кожным шораху лісточка, у кожнай дзіўнай песні салаўя”, з бярозкі, непакорнай і рахманай, да якой і прыхінуцца хочацца, і зірнуць у ясныя вочы заўтрашняга дня.

Запамінальныя радкі з верша “Люблю свой край і гэты ціхі вечар”.

*Чаромхі водар, белы вэлюм саду,*
*Зязюлі шэрай ціхае “ку-ку”*
*І шум дажджу за*
*сценкай роднай хаты*
*Я праз жыццё*
*ў сэрцы пранясу.*
*Люблю свой край*
*І гэты сіні вечар,*
*За хатай –*
*васільковую мяжу,*
*І цёплы хлеб той*
*з печы*
*На белы ліст паперы*
*палажу.*

Кранаюць душу вершы-прысвячэнні з другой кнігі “Ад твайго парога”, якая выйшла ў свет праз сем гадоў пасля папярэдняй у вядомым выдавецтве ПУП “Кнігазбор”, “На магіле Багдановіча”,”У палоне Уладзіміра Караткевіча”, “Памяць святара Уладзіслава Чарняўскага”, іншыя.

У гэтай кнізе ўжо не толькі вершы апошніх гадоў, а таксама артыкулы, эсэ, апавяданні. На яе вокладцы – сімвалічны клубочак жыцця коціцца ад парога сялянскай хаты. Ілюстрацыі да кнігі зрабіў маладзечанскі мастак **Анатоль Акулік**.

Лідзія Міхайлаўна добра разумее, што “лёс нікому лёгкіх шляхоў не выбірае”. У ім, піша аўтарка, шмат ахвяр і падману. Яна ж умее бачыць прыгажосць роднай зямлі, таго куточка вёскі, якія ёй любы, як дзіцяці калыска. Ёй “і расіначка за шчасце, і сінявокі васілёк…”.

Напісанае сагрэтае цяплом яе сэрца. Вось радкі з верша “Папрашу ў лёсу ветрыку для поля”:

*Не налюбавацца –*
*лён цвіце ці іней,*
*Ты заўсёды з ласкай,*
*родная зямля…*
*Папрашу ў лёсу*
*шчасця для радзімы,*
*Калі свеціць сонца,*
*буду грэцца й я.*

А гэтыя радкі – з верша “Час раскажа пра нас”:

*Ёсць у кожнага дня*
*Непадкупныя вагі,*
*Дзе душы чысціня*
*Шмат чаго*
*пераважыць.*

Задумваецца: “А што раскажуць пра нас нашым праўнукам людзі”? Калі гэты свет – поўны прагнасці і сквапнасці. Мы ў ім са сваімі хібамі і недахопамі. Зменіцца ж ён да лепшага толькі тады, калі самі станем лепшымі.

Як адзначае Міхась Казлоўскі, многія вершы паэткі напісаныя на адным дыханні, зліваюцца ў адзіную гармонію зместу і формы – форму дасканаласці. Адзначае неардынарнасць мыслення яе, непаўторнасць аўтарскага стылю і пісьма.

Падмячае:

– Падабаюцца вершы… Тэмай. Думкамі. Свежасцю паэтычнага вобраза. Удалай метафарычнасцю. У іх – чысціня душы, тонкае бачанне свету, светлыя эмоцыі.

Паэтка, кампазітар, цудоўны выканаўца ўласных песень **Таццяна Атрошанка** ўпэўненая, што творца і творчасць адпавядаюць свайму гучнаму прозвішчу – Гардынец… І паэзія яе – ад душы, і проза…

Журналістка член Саюза беларускіх пісьменнікаў **Ала Клемянок** адчувае ў яе творчасці шчырасць, непаўторнасць аўтарскага стылю.

Паэтка **Таццяна Бярэзіна** лічыць:

Паэзія Гардынец – быццам лекі для збалелай душы. Яны нясуць ачышчэнне. Некаторыя пакладзеныя на музыку.

Творчасць яе – поўная душэўнасці. Пачуццёвая. Імпульсіўная. І празаічныя творы, у прыватнасці “Хутар мой, хутарок”, “Івашкаў камень”, “Яе слёз ніхто не бачыў” ды іншыя апавяданні, артыкулы, эсэ, вызначаюцца чалавечай шчырасцю, праўдай жыцця.

Раздумвае аб будучыні беларускай вёскі. Яе хвалююць лёс роднай мовы і культуры. Распрацоўвае тэмы кахання і таямніц прыроды, узаемаадносін між людзьмі, розных аспектаў жыцця.

Апяваючы мясціны, “адкуль душы яе пачатак, узвышаецца да праблем агульначалавечых, дзяржаўных. Падкрэслівае разам з тым, што ўсё ж “жыццё – не пявучы радок…”. Спадзяецца, што яно ўсё ж некалі стане больш светлым. Такое адчуваеш, чытаючы вершы-прысвячэнні. Скажам, у вершы “Адольфу Клімовічу”, “крывічу па духу, па крыві, па племені”, ёсць такія радкі:

*З адной малітвай,*
*з вераю адною*
*Зямлі бацькоў*
*маліўся і служыў,*
*Каб толькі быў народ*
*самім сабою,*
*Каб роднай мовай*
*дыхаў, думаў, жыў.*

І паэт перакладчык Пятро Бітэль, якому паэтка таксама прысвяціла цёплыя, шчырыя радкі, “па цяжкіх шляхах выпрабаванняў прайшоў з Радзімай крок у крок”. А голас святара Уладзіслава Чарняўскага не толькі моц і сілу меў, а яшчэ і надзею людзям даваў…

Чытаеш пра людзей, якіх і сам добра ведаў, пра той куточак зямлі, адкуль звычайна і пачынаецца любоў да Бацькаўшчыны, і сэрца напаўняюць патрыятычныя пачуцці.

З хваляваннем успрымаеш “Хутар мой, хутарок”, “Івашкаў камень”, іншыя артыкулы і апавяданні. Адчуваеш, што напісаныя яны на аснове рэальных фактаў, узятых з жыцця блізкіх аўтару людзей. Працавітых. Добрых. Сумленных. Светлых. Тых, хто многа перажыў: у вобразах дзядулі Аляксандра і бабулі Аленкі, іх дзяцей у поўнай меры ўвасобленыя лёс даваеннага і ваеннага пакаленняў. Людзі працавалі і марылі аб шчаслівым жыцці для сябе і сваіх дзяцей…

І “Івашкаў камень” з падзагалоўкам “Хроніка аднаго жыцця” прысвечаны гісторыі роду Сікорскіх. Разважае, што “гісторыю можна перапісаць, перафарбаваць. А вось лёсы людзей, якія трапілі ў яе жорны, застаюцца нязменнымі”.

Прадстаўнікі гэтага роду, піша Гардынец, спазналі голад, холад, цяжкую працу. Жылі ў час ваеннага ліхалецця ў акупацыі. Ваявалі ў самым цэнтры крывавага месіва – на перадавой. Пасля вайны будаваліся, падымалі разбураную гаспадарку: лёс зноў і зноў іх выпрабоўваў. Ды вяскоўцаў, пра каго расказваецца ў кнізе “Ад твайго парога”, ніколі не пакідала прага да святла.

Уся творчасць Лідзіі Гардынец, асноўнай крыніцай творчага натхнення каго, як прызнаецца, з'яўляецца лепшае месца на свеце – хутарок на Валожыншчыне, паміж вёскамі Дайнава і Узбалаць, сагрэтае цяплом яе сэрца. Хутар гэты – радзіма родных творцы.

**Аляксандр ХАЗЯНІН,**
**журналіст.**

● КРАЯЗНАЎСТВА

# Ільянцы захоўваюць памяць пра бальніцу, якой ганарацца

**ВІЛЕЙКА. Жыхары мястэчка Ілья агульнымі намаганнямі на чале з галоўным доктарам участковай бальніцы Юрыем Панятоўскім вырашылі напісаць кнігу пра бальніцу і тых, хто працаваў і працуе ў ёй.**

А яшчэ марыць доктар стварыць у бальніцы музей. Гісторыя Ільянскай бальніцы, на думку жыхароў, заслугоўвае ўшанавання.



Медперсанал Ільянскай раённай бальніцы, 1965 год. Можа, хто з чытачоў убачыць тут сябе ці сваіх знаёмых, то напішыце ў рэдакцыю.

Фота з архіва Соф'і ДЗЕРГАЧ.

## З гісторыі бальніцы

Спачатку крыху звестак з нядаўняй гісторыі медыцыны – з польскіх часоў . Іх, на жаль, няшмат: не стае архіўных матэрыялаў.

У кнізе "Памяць. Вілейскі раён" аб медыцынскім абслугоўванні на Вілейшчыне пра той перыяд напісана недастаткова. Толькі паведамляецца, што яно было нездавальняючае і на ўвесь павет працавала сем дактароў, пяць фельчараў, сем акушэрак, а лячэнне было платнае.

Яшчэ адзначаецца, што ў самым пачатку 20 стагоддзя ў Ільі знаходзіўся толькі прыёмны пакой і працавала сельская аптэка.

Прозвішчы дактароў і фельчараў, якія лячылі на той час людзей у Ільі, невядомыя. Магчыма, што ў далейшым, калі адшукаюцца ў архіве такія звесткі, гэта і стане вядома.

Пакуль жа нам удалося, і зусім выпадкова, знайсці ў жыхара Ільі **Віктара Пятровіча Буркевіча** рэцэпт, выпісаны 21.04.1933 года, дзе па-польску напісана: "Apteka B. Ktoka т.Ілія".

**У 1940 годзе, калі быў утвораны Ільянскі раён, планавалася ў Ільі пабудаваць бальніцу. Але вайна перакрэсліла гэтыя планы.**

Пасля вайны бальніца ў Ільі працавала ў двух часова прыстасаваных невялікіх памяшканнях у Старой Гуце. У адным памяшканні на два невялікія пакоі было лячэбнае аддзяленне, а ў другім працаваў раддом. Паліклініка знаходзілася ў Ільі па вуліцы Чырвонаармейскай у хаце, якая стаяла амаль у канцы вуліцы.

Віктар Буркевіч сцвярджае, што нейкі час пасля вайны бальнічка працавала яшчэ і ў былой польскай пагранічнай казарме, якая стаяла каля дарогі недалёка ад вёскі Старынкі (каля Брыцкіх), калі ехаць з Ільі на Лукавец.

Бальніца ў Старой Гуце праіснавала да канца 1950 года ўключна, пакуль не былі пабудаваны памяшканні ў Ільі.

Пасля 10 студзеня 1951 года пераехала ў Ілью. Атрымоўваецца, што Ільянская бальніца існуе ўжо больш за 70 гадоў. І роўна 64 гады яна знаходзіцца ў Ільі на гэтым жа месцы, што і цяпер, каля рэчкі.



Галоўны доктар Ільянскай участковай бальніцы Юры Лявонавіч Панятоўскі, лаўрэат конкурсу "Доктар года Беларусі".

Фота забяспечана Уладзімірам КАЖАМЯКАМ.



Медсястра Ільянскай бальніцы Галіна Міхайлаўна Буркевіч.

Фота забяспечана Уладзімірам КАЖАМЯКАМ.

## Вольга Кавалёва – адна з першых медсясцёр бальніцы

Нядаўна давялося сустрэцца і пагутарыць з **Вольгай Кавалёвай**, якая жыве ў Ільі. Яна 1922 года нараджэння і ад 1950 года да 1987-га працавала ў бальніцы медсястрой. Працавала яшчэ тады, калі бальніца знаходзілася ў Старой Гуце, дзе не было амаль ніякіх умоў. І ўсё тут адбывалася на яе вачах і пры яе ўдзеле. Вольга Аляксандраўна добра памятае той час і расказвае пра ўсё цікава, успамінаючы ўсіх сваіх сябровак-медсясцёр і сваіх паважаных дактароў.

І недарэмна яна іх усіх хваліць, бо ўсе працавалі на дзіва старанна і спраўляліся паспяхова з нагрузкай. І такое прыемна чуць ад старэйшай супрацоўніцы бальніцы.

Цікава было даведацца ад Вольгі Аляксандраўны, што галоўным доктарам бальніцы ў пачатку яе існавання быў хірург **Афанасій Шаўцоў**, якога прыслалі з Мінска. Потым часова абавязкі галоўнага доктара выконваў загадчык раённага аддзела аховы здароўя тэрапеўт **Іосіф Карпук**. Але ня доўга, бо ў 1952 годзе з Мінска на пасаду галоўнага доктара райбальніцы прыслалі **Рыгора Хесіна**. Ён лячыў хваробы вачэй – быў добрым акулістам, быў добрым кіраўніком бальніцы на працягу дзесяці гадоў, пакуль не забралі ў Мінск.

Пасля Рыгора Хесіна працяглы час галоўным доктарам працаваў наш вядомы хірург **Рыгор Карповіч**.

Усе ільянскія дактары плённа працавалі, таму і засталіся ў памяці Вольгі Аляксандраўны. Яна іх адразу назвала. А гэта **Марыя Лапотка**, **Аляксандр Лапіцкі**, **Іван Палубесак**, **Яўген Сівалобцаў**, **Валянціна Лашутка**, **Аляксандр Стукін**, **Соф'я Капаловіч**, **Зоя Рудая**, **Навум** і **Мара Шапіры**, **Людміла Катовіч**, **Міхаіл** і **Ала Каты**, **Іван Пінчук**, **Антон** і **Дыяна Філіповічы**, **Эдуард Ярашэвіч**, **Аляксандр** і **Ніна Русаковічы**, **Сяргей Мікуліч**, **Павел Недасекін**.

А яшчэ ж і вялікая колькасць медсясцёр помніцца ўсім, хто лячыўся ў бальніцы. Медсёстры – надзейныя памочнікі, іх роля надзвычай важная пры лячэнні, бо яно ажыццяўляецца іх рукамі і розумам. Таму прызнаем за праўду, што ўсе працаўнікі бальніцы на ўсім працягу яе існавання заўсёды ўносілі свой уклад у яе развіццё. І за гэта ім сардэчны дзякуй.

## Сённяшнія дасягненні

Галоўны доктар Ільянскай участковай бальніцы Юры Панятоўскі ў 2013 годзе стаў лаўрэатам трэцяй ступені рэспубліканскага конкурсу "Доктар года" ў намінацыі "Доктар агульнай практыкі".

**Уладзімір КАЖАМЯКА, Ілья.**

**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

**90 гадоў** назад (1925) у Заходняй Беларусі пачалася аграрная рэформа: выкуп сялянамі памешчыцкай зямлі, перасяленне на хутары, ліквідацыя сервітутаў, асадніцтва.

***

**4 лютага.** Нарадзіўся Арсень Ліс (1934), беларускі фалькларыст, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук (1997), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Нарадзіўся ў вёсцы Вётхава, цяпер Смаргонскі раён. Аўтар даследаванняў па гісторыі культуры, жанрах беларускага фальклору, фалькларыстыкі.

***

**500 гадоў** з дня нараджэння (1515) Мікалая Радзівіла (Чорнага), вядомага дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

***

**65 гадоў** назад (1950) памёр Ян Булгак, беларускі і польскі майстар мастацкай краязнаўчай фатаграфіі, "бацька польскай фатаграфіі", адзін з піянераў польскай мастацкай фатаграфіі, этнограф, фалькларыст. Яму было 73 гады. Першыя свае фотаздымкі зрабіў у 1905 годзе – жонка атрымала ў падарунак просценькі фотаапарат. На лёс Яна Булгака як фатографа паўплываў мастак Фердынанд Рушчыц. У 1911 годзе па яго прапанове Віленскі гарадскі магістрат стварыў пасаду гарадскога фатографа, на якую запрасіў Яна Булгака. Перад тым як пачаць працу, Булгак прайшоў практыку ў Германіі ў вядомага дрэздэнскага партрэтыста Хуга Эрфурта, пабываў у розных мастацкіх суполках, дзе пазнаёміўся з сімвалістамі і імпрэсіяністамі з Германіі і Францыі. Пераважная частка яго творчасці звязаная з Вільняй і Віленшчынай. Большасць яго калекцыі зробленая ў 1912 – 1915, але нават падчас нямецкай акупацыі ў Другую сусветную вайну Ян Булгак не пераставаў фатаграфаваць (15 альбомаў з той пары з 462 здымкамі захаваліся дагэтуль у Літоўскай акадэміі навук у Вільні). У 1915 годзе выйшаў альбом у 6 тамах "Літва ў здымках Яна Булгака", якія ён рабіў у 1905–1911 гадах і дзе змешчана больш за 270 здымкаў. Сярод якіх Крэва і Вілейка. Фотаздымкі Булгака, якія перадаюць саму аўру Старога горада і навакольнага ландшафту, адносяць да твораў "непараўнальнай мастацкай каштоўнасці".

***

**5 лютага.** 85 гадоў з дня нараджэння (1930) Расціслава Янкоўскага, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Месяцавы каляндар
## садавода і агародніка на 2015 год



**Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2015 год. Улік квадраў Месяца, становішча Месяца ў знаках задыяка. Рэкамендацыі для садаводаў і агароднікаў. Уплыў неспрыяльных, у тым ліку сатанінскіх дзён. Новае: парады і падказкі траўнікам і грыбнікам.**

**Заўсёды памятайце, што на добрыя вынікі ў агароднай справе і ў садзе ўплываюць не толькі тэрміны правядзення работ, але таксама і агульныя ўмовы вегетацыі раслін. Звяртайце ўвагу на надвор'е. Арыентуйцеся на агратэхнічныя рэкамендацыі. Комплекснае прымяненне агратэхнічных канонаў і парад месяцавага календара дазволіць парадаваць сябе і сваіх блізкіх добрым ураджаем.**

### Другое паўгоддзе

## Ліпень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, касьба. Са зрэзаных кветак складаюць цудоўныя букеты |
| 2 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, касьба |
| 3, 4 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 5, 6 | Пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, падрэзка ягадных кустоў. Нарыхтоўка варэння і саленняў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 7, 8 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Праполка і мульчыраванне. Збор караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка гародніны і садавіны |
| 9-11 | Пасадка караняплодаў, клубневых і цыбульных культур. |
| 12, 13 | **Не рэкамендуюцца пасадка і перасадка травяністых культур.** Касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 14, 15 | Нарыхтоўка лекавых траў, якія патрабуюць эфектыўнай сушкі. У гэтыя дні збіраюць усё, што не падлягае працягламу захоўванню. Атрымоўваюцца кансервы і саленні |
| 16 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Эфектыўныя выдаленне лішніх парасткаў, касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. |
| 17, 18 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Рэкамендуюцца пасадка кустоў, збор і сушка садавіны і карняплодаў. Мульчыраванне, барацьба са шкоднікамі, абрэзка дрэў, збор насення сланечніку, нарыхтоўка лекавых траў |
| 19, 20 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, садзіць на насенне.** Добра прыжывуцца дэкаратыўныя расліны, не прызначаныя для плоданашэння: бружмель, шыпшыннік. Саджайце павойныя расліны |
| 21-23 | Пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Эфектыўныя паліў і касьба. Цудоўны час для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў, догляду за пакаёвымі раслінамі |
| 24, 25 | Пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. **Не рэкамендуецца рассаджваць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліванне |
| 26, 27 | Пасадка хуткарослых культур: зеляніны, цыбулі, часнаку, перцу, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, шпінату, шыпшыны, бружмелі, сліў. Рэкамендуецца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак |
| 28-30 | Рэкамендуецца пасадка і перасадка дрэў і кустоў, асабліва грушавых і слівавых дрэў, агрэсту, парэчак. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба |
| 31 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка** |

## Жнівень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца збіраць збожжавыя і караняплоды, касіць, праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзка дрэў і кустоў, прышчыкванне, праполка |
| 2, 3 | Рэкамендуецца нарыхтоўваць насенне, зразаць кветкі ў букет. Нарыхтоўка варэнняў і саленняў. Выдатны час для культывацыі і ўнясення ўгнаенняў |
| 4, 5 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. Збор ураджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка гародніны і садавіны |
| 6, 7 | Абрэзка дрэў і кустоў. Садавіна, ягады і гародніна, знятыя ў гэты час, а таксама грыбы прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 8, 9 | **Не рэкамендуюцца пасадка і перасадка травяністых культур.** Эфектыўныя выдаленне лішніх парасткаў, касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 10, 11 | Нарыхтоўка лекавых траў, якія патрабуюць асабліва эфектыўнай сушкі. Атрымоўваюцца кансервы і саленні |
| 12, 13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Збор і сушка садавіны і карняплодаў. Зручны момант для мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 14 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур** |
| 15, 16 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, садзіць на насенне.** Добра прыжывуцца дэкаратыўныя расліны, не прызначаныя для плоданашэння: бружмель, шыпшыннік |
| 17-19 | Пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Эфектыўныя паліў і касьба. Цудоўны час для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў |
| 20, 21 | **Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 22-24 | Пасадка хуткарослых культур: зеляніны, цыбулі, часнаку, перцу, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, шпінату, шыпшыны, бружмелі, сліў. Збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Цудоўны час для сушкі агародніны і грыбоў |
| 25, 26 | Рэкамендуецца пасадка і перасадка дрэў і кустоў, асабліва грушавых і слівавых дрэў, агрэсту, парэчкак. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба |
| 27, 28 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца збіраць збожжавыя і караняплоды, касіць, праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзка дрэў і кустоў, прышчыкванне, праполка |
| 29 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 30 | Рэкамендуецца нарыхтоўваць насенне, зразаць кветкі ў букет. Нарыхтоўка варэнняў і саленняў. Выдатны час для культывацыі і ўнясення ўгнаенняў |
| 31 | Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі. Знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. Збор ўраджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых культур |

## Верасень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне. Збор ўраджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка гародніны і садавіны |
| 2, 3 | **Рэкамендуецца пасадка азімай цыбулі.** Абрэзка дрэў і кустоў. Садавіна, ягады і гародніна, знятыя ў гэты час, а таксама грыбы прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 4, 5 | **Не рэкамендуюцца пасадка і перасадка травяністых культур.** Эфектыўныя выдаленне лішніх парасткаў, касьба, праполка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 6-8 | Нарыхтоўка лекавых траў, якія патрабуюць асабліва эфектыўнай сушкі. У гэтыя дні збіраюць усё, што не падлягае працягламу захоўванню. Атрымоўваюцца ў гэты час кансервы і саленні |
| 9, 10 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Рэкамендуецца збор і сушка садавіны і карняплодаў, асабліва ўборка бульбы. Зручны момант для падрыхтоўкі град да сяўбы, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 11, 12 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, мульчыраванне дрэў |
| 13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка** |
| 16-18 | **Не рэкамендуецца збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 19, 20 | Збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Цудоўны час для сушкі агародніны і грыбоў. Пасаджаныя ў гэты дзень дамашнія кветкі хутчэй расцвітаюць |
| 21, 22 | Пасадка і перасадка дрэў і кустоў, асабліва грушавых і калючых дрэў, агрэсту, парэчак. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў |
| 23, 24 | Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі. Можна нарыхтоўваць насенне, падстрыгаць дрэвы і кусты |
| 25, 26 | Рэкамендуецца нарыхтоўваць насенне, зразаць кветкі ў букет. Нарыхтоўка варэнняў і саленняў. Выдатны час для культывацыі і ўнясення ўгнаенняў |
| 27 | Барацьба з хваробамі і шкоднікамі, прасушванне |
| 28 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка** |
| 29, 30 | Пасадка азімага часнаку, цыбулі. Абрэзка дрэў і кустоў. Садавіна, ягады і гародніна, знятыя ў гэты час, а таксама грыбы прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |

## Кастрычнік

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1-3 | Рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Удалы час для ўкрыцця шматгадовых раслін |
| 4, 5 | Рэкамендуецца рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Абрэзка не рэкамендуецца |
| 6, 7 | Культывацыя глебы. **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі раслін** |
| 8-10 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 11, 12 | Навядзенне парадку на дзялянцы |
| 13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** |
| 14, 15 | Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы. Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 16, 17 | Рэкамендуецца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Цудоўны час для сушкі агародніны і грыбоў |
| 18-20 | Рэкамендуецца пасадка і перасадка дрэў і кустоў, асабліва грушавых і слівавых дрэў, агрэсту, парэчак. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба. Са зрэзаных кветак складаюць цудоўныя букеты |
| 21, 22 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца апырскванне саду ад зімовых раслінных шкоднікаў |
| 23, 24 | Рэкамендуецца апырскванне саду ад зімовых раслінных шкоднікаў і ўцяпленне ягадных кустарнікаў |
| 25,26 | Барацьба з хваробамі і шкоднікамі, прасушванне, праветрыванне |
| 27 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 28 | Рэкамендуецца пасадка азімага часнаку, цыбулі. Абрэзка дрэў і кустоў. Грыбы, сабраныя ў гэты час, прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 29, 30 | Рэкамендуецца рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Удалы час для ўкрыцця шматгадовых раслін на зіму |
| 31 | Рэкамендуецца рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Абрэзка не рэкамендуецца |

## Лістапад

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Абрэзка не рэкамендуецца |
| 2-4 | Культывацыя глебы. **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі раслін** |
| 5, 6 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 7, 8 | Навядзенне парадку на дзялянцы |
| 9 | Абрэзка кустоў і дрэў |
| 10-13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 14, 15 | Нарыхтоўка чаранкоў для вясновай пасадкі |
| 16, 17 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца абкопванне град са шматгадовымі раслінамі |
| 18, 19 | Сяўба зеляніны і гародніны на падваконні або ў зімовых цяпліцах. Паліў, унясенне ўгнаенняў |
| 20, 21 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 22, 23 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 24 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 25, 26 | Рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 27-29 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба гародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 30 | Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі |

## Снежань

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 2-4 | **Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі** |
| 5-6 | Сяўба зеляніны і пасадка цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы, падкормка кветак |
| 7-8 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |
| 9 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 10 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 11, 12 | Рэкамендуюцца пасадкі на насенне. Рыхленне глебы, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 13, 14 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 15, 16 | Сяўба ліставай гародніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Рэкамендуюцца паліў, унясенне ўгнаенняў |
| 17, 18 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Рэкамендуецца барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 19-21 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 22, 23 | Работы ў цяпліцы. Рэкамендуецца рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 24 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 25 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба гародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 26-28 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 29-31 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі. І не забудзьце сустрэць Новы год! |

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

БЯСПЕКА

# Праваліцца пад лёд – не нагода адмяняць рыбалку

**Тое, што пра асаблівасці рыбалкі ў зімовы перыяд знялі кіно, вядома ўсім. А вось тое, што ў кожнага рыбака ёсць свая зімовая гісторыя, ведаюць далёка не ўсе.**

У гэтым артыкуле мы падабралі вясёлыя і сумныя, кур'ёзныя і сур'ёзныя гісторыі рыбакоў.



Фота забяспечана Міхаілам ЧАБАЁМ.

23 шчупакі за 4 гадзіны злавіла кампанія рыбакоў з Маладзечна на адным з вадасховішчаў Міншчыны. На фота Міхаіл Чабай са здабычай.

### Гісторыя пра тое, як шукалі патанулага сябра

Гэтай гісторыяй падзяліўся рыбак з Гродзеншчыны **Валеры Буда.**

– Паехалі мы аднойчы на рыбалку на ўсе выхадныя. Размясціліся на лёдзе, закінулі снасці ў палонкі, паставілі палаткі і палезлі грэцца. Пра “абагравальнік” на рыбалцы, думаю, расказваць падрабязна сэнсу няма. Далёка за поўнач ляглі спаць. Прачнуліся раніцай, а нашага таварыша з намі няма.

Глядзім, а ўсё яго абмундзіраванне на месцы. Ну што, думаем, патануў. Выклікалі спецыялістаў МНС.

**Пакуль яны ехалі, вырашалі, хто будзе жонцы сябра званіць, каб паведаміць ёй пра трагедыю.**

Даверылі гэту місію мне. Я тэлефаную, а на тым канцы проваду мне адказвае заспаны голас… таго самага патанулага сябра.

Як высветлілі пасля, сябар ноччу прачнуўся ад таго, што стала яму вельмі холадна. Ён вырашыў, чаго спаць на лёдзе, калі дома цёплая пасцель. Сабраўся і пайшоў пешшу дадому.

### Гісторыя пра тое, як сябар вынес з вады на руках

**Віталь Аноп**, рыбак з Маладзечна, прыгадаў гісторыю, пасля якой хадзіць на зімовую рыбалку толькі ў выратавальнай камізэльцы.

– Аднойчы праваліўся пад лёд. Глыбіня вадаёму была невялікая, але я перапужаўся. Успомніў усе парады, што чуў ад людзей.

**Распластаўся на лёдзе і паўзком выбіраўся. Пашанцавала, выбраўся.**

Мокры дайшоў да машыны, што стаяла на некаторай адлегласці, сушыўся гадзіны дзве, а потым зноў вярнуўся на рыбалку.

І яшчэ адна гісторыя здарылася з Віталем, як кажа сам рыбак, “на апошнім лёдзе”.

– Ішлі мы на рыбалку, лёд ля вадаёма яшчэ быў трывалы. А вярталіся назад, глядзім, паўсюль разлілася вада. Ступілі некалькі крокаў – глыбока. Пайшлі троху ўправа – там вады яшчэ больш. Блукалі так кругамі. Потым адзін з нас, стаміўшыся ад бессэнсоўнай хады, спыніўся, распрануўся да трусоў і перанёс кожнага з нас на руках праз ваду.

Пасля гэтага, мы, як удзячныя сябры, знялі з сябе па адной адзежыне і надзелі на нашага смелага сябра.

### Джыпы, зладзеі і фаршыраваны шчупак

**Міхаіл Чабай**, маладзечанскі рыбак, прыгадаў некалькі гісторый, якія здараліся і з ім самім, і пра якія расказвалі сябры на рыбалцы.

– Часам здараецца такое, што ты ўжо цягнеш рыбу з палонкі, як раптам адчуваеш пад лёдам моцны ўдар. Гэта тваю здабычу схапіў яшчэ больш драпежнік. У такім выпадку, галоўнае не разгубіцца і трымаць ля сябе багор. Пашанцуе – і ты выцягнеш з вады шчупака, ужо фаршыраванага меншым шчупачком.

Яшчэ сапраўдны рыбак ніколі не павінен губляць пільнасці. У Міхаіла на рыбалцы, пакуль той спаў, з незачыненага багажніка машыны скралі два спінінгі. А на даху машыны стаяў абутак. Цяпер яго носіць нехта іншы.

– Быў яшчэ адзін выпадак, пра які расказвалі знаёмыя, – працягвае расповед Міхаіл. – Паехалі яны ўпершыню на рыбалку аж у Карэлію. Ну, вядома, ракі не ведалі, вырашылі дабірацца да месца рыбалкі асцярожна, па-пластунску.

**Ляглі на лёд і паўзуць акуратна. Тут раптам у двух кроках ад іх на шалёнай хуткасці пранёсся вялізны джып.**

Знаёмыя паднялі галаву і ўбачылі, што там на самую сярэдзіну ракі ці возера людзі ездзяць наўпрост на машынах. Вось такі тоўсты лёд у Карэліі.

### Перад выхадам на лёд ацэньвайце сваё самаадчуванне

Расказвае старшыня Мядзельскага раённага таварыства выратавання на водах **Дзмітры Мялешка:**

– Такія выпадкі здараюцца нярэдка. Звычайна – пад вясну, калі маразоў няма, сонейка прыгрэе і людзі расслабяцца. Возьмуць з сабой спіртное, вып'юць і прыдрэмлюць ля лункі.

Глядзім – усе рыбакі пайшлі дадому, а адзін застаўся. Ды і руху каля лункі няма. Супрацоўнікі выратавальнай станцыі ідуць, правяраюць: мала што з чалавекам можа здарыцца. Падыходзяць, будзяць, праводзяць да берага. Здараецца і такое, што чалавек ужо цвёрда на нагах не трымаецца. Тэлефануем сваякам, каб забралі.

Так што, не раіў бы злоўжываць спіртным на вадаёмах.

Аднак бывае па-іншаму.

**Аднойчы глядзім – рыбак упаў са скрыні, не падымаецца. Пайшлі праверыць – кажа, што з сэрцам дрэнна.**

Выклікалі хуткую, на спецыяльнай дошцы данеслі яго да берага. Потым аказалася, што здарыўся інфаркт.

Калі ёсць праблемы са здароўем, раіў бы рыбакам ацэньваць самаадчуванне перад выхадам на лёд. І абавязкова бярыце з сабой тэлефон, каб можна было выклікаць экстранныя службы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**
**Наталля ТУР.**

## Лепшая засцярога ад няшчасця – трымацца далей ад лёду

Інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС **Ксенія Таратута** падрыхтавала рэкамендацыі для тых, хто ўсё ж такі апынуўся ў ледзяным палоне.

1. Не панікуйце, пастарайцеся не ныраць і не мачыць галаву. Не спрабуйце неадкладна выбрацца на лёд, паколькі ў тым месцы, дзе вы праваліліся, ён, хутчэй за ўсё, нетрывалы. Трымайцеся за край лёду.
2. Гучна клічце на дапамогу.
3. Ляжце на жывот ў позу плыўца. Пакуль паміж пластамі вашага адзення застаецца паветра, яно дапаможа вам трымацца на плыву.
4. Імкніцеся перасоўвацца да таго краю палонкі, адкуль ідзе плынь. Дабраўшыся, паспрабуйце налегчы грудзьмі на край лёду і, закінуўшы нагу, выбрацца на лёд. Нават калі лёд ламаецца, усё роўна не пакідайце спробаў выбрацца.
5. Пасля таго, як асноўная частка тулава апынецца на лёдзе, адпаўзіце або адкаціцеся далей ад палонкі. Павольна і асцярожна паўзіце да бяспечнага месца, адштурхоўваючыся рукамі і нагамі.
6. Выбраўшыся на сушу, паспяшайцеся сагрэцца. Варушыцеся і рабіце сілавыя практыкаванні, пакуль не сагрэецеся.

### Што рабіць, калі хтосьці праваліўся пад лёд?

– Аказанне дапамогі чалавеку, які праваліўся пад лёд, справа яшчэ больш цяжкая, чым ратаваць самога сябе, – кажа Ксенія Таратута.

Каб дапамагчы пацярпеламу і не пацярпець самому, прытрымлівайцеся наступных правілаў:

1. Ацаніце, ці зможаце вы аказаць дапамогу самастойна, або лепш паклікаць каго-небудзь яшчэ.
2. Калі паблізу нікога няма, хто б мог дапамагчы, узброіцеся палкай, вяроўкай або дошкай і асцярожна паўзіце да палонкі, раўнамерна размяркоўваючы вагу вашага цела па паверхні і штурхаючы выратавальны сродак перад сабой.
3. Наблізіўшыся на максімальна магчымую бяспечную адлегласць ад палонкі, падайце пацярпеламу палку, дошку або канец вяроўкі.
4. Калі пачняце выцягваць пацярпелага, папрасіце яго працаваць нагамі – так будзе лягчэй выцягнуць яго з палонкі.
5. Цягніце пацярпелага ў бяспечнае месца і акажыце першую дапамогу, неабходную пры пераахаладжэнні арганізма. Выклічце “хуткую дапамогу”.

Але самая надзейная парада, – падсумавала Ксенія, – проста не выходзьце на тонкі лёд, не падвяргайце сваё жыццё рызыцы.

### У Маладзечне і Мядзеле ў мінулым годзе патанулі па адным рыбаку

**Мікалай Паўлушаў**, старшыня Маладзечанскага раённага таварыства выратавання на водах, пракаментаваў, што ў мінулым годзе 8 сакавіка на Вілейскім вадасховішчы патануў адзін рыбак.

**Дзмітры Мялешка**, старшыня Мядзельскага раённага таварыства выратавання на водах, таксама адказаў, што ў 2014 годзе на Мядзельшчыне патануў адзін чалавек. Сёлета, на шчасце, няшчасных выпадкаў не было.




Фота Міхаіла АЛЯКСЕЕВА.

Мікалай Рындзюк рыхтуецца трэніраваць "Смаргонь".

ФУТБОЛ

# Мікалай Рындзюк: "Смаргонь" будзе – гэта дакладна"

**СМАРГОНЬ. Будучы галоўны трэнер"Смаргоні" Мікалай Рындзюк даў вялікае інтэрв'ю offside.by. Прапануем вытрымкі з размовы, якія датычаць смаргонскага клуба.**

**– Афіцыйна вы з'ўяўляецеся гульцом "Смаргоні", але збіраецеся стаць галоўным трэнерам каманды. Завязваеце з гульнявой кар'ерай канчаткова?**

– Паступіла такая прапанова, і я даў згоду. Калі б не было праблем з грашыма, то я з чыстым сумленнем павесіў бы буцы на цвік і займаўся трэнерскай дзейнасцю. Прыйдзецца цяпер глядзець, з якімі гульцамі трэба будзе працаваць, хто будзе гуляць, якія будуць зарплаты, які бюджэт. Таму магчымы варыянт, што я буду гуляючым трэнерам.

## "Можа, давядзецца выстаўляць моладзь"

Пракаментаваў Мікалай Рындзюк нядаўнія чуткі, што клуб можа спыніць існаванне.

**– Гаварыць сёння пра гэта няма сэнсу. Клуб будзе існаваць – дакладна. Пытанне ў тым, у якім выглядзе? З якімі грашыма і з якімі футбалістамі?**

Цяпер каманда жыве дрэнна. Няма яснасці, пэўнасці. Уся эканоміка падае. Магчымыя розныя варыянты. Можа, давядзецца выстаўляць моладзь, якая будзе атрымліваць два-тры рублі. Кожны чалавек будзе вырашаць сам. Будзе ў некага прапанова – мы не станем перашкаджаць сыходу. Калі іх не будзе, то футбаліст застанецца за тыя грошы, якія прапануюць. Нам могуць пакінуць леташні бюджэт, тады каманда будзе змагацца за высокія месцы. Зрэжуць у два-тры разы – і "Смаргонь" будзе складацца з маладых і перспектыўных хлопцаў. Да іх дабавім некалькі дасведчаных футбалістаў. Бо людзі, якія раней дамагаліся выніку, не захочуць гуляць за тры мільёны.

**– Інфармацыя аб магчымым распадзе, здаецца, з'явілася ад фанатаў.**

– Так, ёсць людзі, якія перажываюць за "Смаргонь", ходзяць, прабіваюць нешта, спрабуюць дапамагчы. Радуе, што ёсць неабыякавыя.

**– Што гэта за людзі?**

– Працуюць хто дзе. Факт у тым, што ў Смаргоні, акрамя футбола, нічога няма. Нельга жыхароў горада яшчэ і гэтага пазбавіць. Трэба разумець, што футбольны клуб – гэта растраты для прадпрыемства, горада і вобласці. З іншага боку, гэта сацыяльны праект. І калі прыходзяць выхадныя, людзі ідуць на футбол, атрымліваюць разрадку, эмоцыі, хвалююцца. Пры гэтым каманда з году ў год дамагалася выніку, падымалася ўсё вышэй і вышэй. Мне здаецца, кіраўніцтву трэба падумаць пра гэта. Клуб павінен існаваць.

**– У вашым выпадку так і атрымліваецца?**

– Сёння ўлады, скажам так, падтрымліваюць не так, як гэта павінна быць у маім разуменні. У мяне крыху іншыя погляды на гэтыя рэчы. Але я спадзяюся, што чыноўнікі яшчэ дойдуць да спорту. З усім разбяруцца, і ўсё стане на свае месцы.

## Быў камандзе на правах "дзядзькі"

**– Як вам паступіла прапанова ўзначаліць каманду?**

– Па-першае, у "Смаргоні" я ўжо практычна тры гады. У першы год клуб мне аплачваў навучанне на трэнерскую катэгорыю Б. Гэта было ўказана ў кантракце. Але прыйшоў новы дырэктар і катэгарычна не захацеў працаваць са старым трэнерам. Разглядалі некалькі кандыдатур на пасаду настаўніка, у тым ліку і маю. Мне прапанавалі – я пагадзіўся. Быў да гэтага гатовы, ішоў плаўна да такога рашэння. Стала зразумела, што калі мяне прызначаць галоўным трэнерам, гэта будзе адэкватна.

**– Пакуль гулялі, былі ў камандзе на правах "дзядзькі"?**

– Ну, так. Мог і напіхаць каму, і пакрычаць у перапынку. Магу доктару па вуху даць (смяецца). Але я адчуваю меру. Ведаю, на каго можна павысіць голас, каго трэба пахваліць. Тут хапае псіхалагічных момантаў. Такія эмацыйныя ўсплёскі могуць быць карысныя камандзе. Калі ўзгадаць усе выпадкі, калі я і з кім лаяўся – з галоўным трэнерам Бацютам, яшчэ з кімсьці ў распранальні, – то наступную гульню мы абавязкова выйгравалі.

**– І з трэнерам сварыліся?**

– Так, усялякае бывала. Мог штосьці яму выказаць, ён – мне. Працоўныя моманты.

**– Якая база ў клуба?**

– Звычайная. Шмат у інтэрнэце сказана пра садок гэты. Адно крыло садка сапраўды адведзена пад базу. Будынку патрэбны рамонт. Але цяпер там ёсць усе ўмовы: ацяпленне, мыццё, халадзільнікі, ежа. Гульнявое і штучнае поле побач, у дзесяці хвілінах хады. У першай лізе ў "Смаргоні" не самая лепшая, але і не горшая інфраструктура.

Паводле offside.by.

НАВІНЫ

## Смаргонцы прайгралі "Легендзе"

**СМАРГОНЬ.** Першую гульню ў вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе правяла смаргонская "Вілія".

Смаргонцы 25 студзеня гулялі ў Іўі з "Легендай" – адным з лідараў чэмпіянату. Прайгралі 5:6.

– Наша каманда вяла ў ліку 5:1, але прайграла, – расказаў гулец "Віліі" **Віталь Будай.** – Проста рана паверылі ў перамогу і расслабіліся.

## Маладзечанцы ідуць далей

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ.** У Лагойску 17-18 студзеня прайшлі спаборніцтвы папярэдняга этапа розыгрышу Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе. У іх удзельнічалі каманды з Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага раёнаў і дзве з Лагойска.

Першае месца занялі маладзечанцы. Яны перамаглі ва ўсіх матчах. Віляйчане прайгралі толькі маладзечанцам 1:4 і занялі другое месца. На трэцяй прыступцы – мядзяльчане.

Каманда Маладзечанскага раёна будзе змагацца ў фінальных гульнях Кубка Мінскай вобласці. Намечаныя яны на 7-8 лютага.

## Згуляць у шашкі і шахматы можна ў цэнтры

**МЯДЗЕЛ.** Ад 15 студзеня у фізкультурна-аздараўленчым цэнтры працуе пакой для аматараў шашак і шахмат.

Да сярэдзіны лютага гэтай паслугай можна скарыстацца бясплатна, паведаміў дырэктар цэнтра **Андрэй Русак**. Потым цэны будуць такія: для школьнікаў і пенсіянераў – пяць тысяч рублёў за наведванне, 10 тысяч – з астатніх.

## "Мядзел" і "Зубраня" ўстроілі разгромы

**МЯДЗЕЛ.** У чэмпіянаце раёна па міні-футболе 21 студзеня каманда аддзелаў райвыканкама сустракалася з "Лідарам".

– Гэта была адна з самых цікавых гульняў тыдня, – расказаў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак.** – "Лідар" прэтэндуе на высокія месцы. І асноўны склад гуляў: студэнты якраз на канікулах. Аднак каманда аддзелаў райвыканкама аказала ўпартае супраціўленне, вяла ў ліку. У выніку нічыя 5:5.

У камандзе аддзелаў РВК гуляе старшыня Мядзельскага райвыканкама **Ілля Шацько.**

У гэты ж дзень каманда НДЦ "Зубраня" разграміла супрацоўнікаў райаддзела па надзвычайных сітуацыях 13:1.

24 студзеня прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму абыгралі каманду райваенкамата 7:1. Яшчэ адзін разгром зафіксаваны ў матчы паміж камандамі Крывіцкага сельсавета і індывідуальных прадпрымальнікаў "Мядзел". Вынік – 14:1 на карысць мядзельцаў. "Юніёр" саступіў "Алімпіку" 4:7.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## "Дынама-Маладзечна" прайграла лідару на апошніх хвілінах

**МАЛАДЗЕЧНА.** "Дынама-Маладзечна" 25 студзеня дома прымала лідара экстралігі – салігорскі "Шахцёр".

Ад першых хвілін дынамаўцы кінуліся атакаваць вароты **Міхаіла Шыбанава**, піша hcdinamo.by.

Госці да такога ціску аказаліся не гатовыя і ў канцоўцы перыяду прапусцілі. Шайбу закінуў **Артур Гаўрус**. У пачатку другога перыяду ён у большасці аформіў дубль.

Толькі ў канцы перыяду госці забілі свой першы гол. Да гэтага галкіпер маладзечанцаў **Павел Шэгала** зрабіў некалькі бліскучых сэйваў (скачкоў).

Пасля гэтага "гарнякі" працягвалі насядаць на вароты дынамаўцаў і ўрэшце свайго дамагліся. У самым канцы матча каманда з Маладзечна прапусціла двойчы. Прытым, дзве шайбы ўляцелі ў вароты менш чым за паўтары хвіліны. У выніку "Дынама-Маладзечна" прайграла 2:3.

## Віляйчане сталі лепшымі "абаронцамі Айчыны" ў рэгіёне

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ, ВАЛОЖЫН.** У Маладзечне 19 студзеня прайшлі занальныя абласныя спаборніцтвы па зімовым мнагаборстве "Абаронца Айчыны" сярод юнакоў дапрызыўнага і прызыўнога ўзросту.

У спаборніцтвах узялі ўдзел пяць каманд. Прадстаўлялі яны Маладзечанскі, Вілейскі, Лагойскі, Мядзельскі і Валожынскі раёны.

Усяго спаборнічалі 35 юнакоў, паведамляецца на сайце аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.

Перамагла каманда Вілейскага раёна. На другім месцы – маладзечанцы. Трэцяе занялі валожынцы.

Аддзел інфармацыі.

**Юная смаргонка вярнула знойдзены кашалёк з вялікай сумай грошай**

Вось такія ўчынкі адразу характарызуюць чалавека з лепшага боку... Малайчына, дзяўчынка!.. *Эва.*

**Фотарэпартаж: зіма, снегавікі і першакласнікі шостай гімназіі**

Гледзячы на гэтыя прыгожыя зімовыя фотадзымкі, нельга не адзначыць, што зіма ў гэтым годзе ўсё ж была... А, можа, яшчэ і будзе... Наперадзе – люты... *Эва.*

**ФК "Маладзечна-2013" ліквідуецца.**

Параўноўваць ДЮСШ і ФК "Маладзечна-2013" я лічу няправільным. Гэтыя каманды гулялі на розным узроўні і ў розных лігах. Узровень вболасці нашмат адстае ад узроўню рэспубліканскіх спаборніцтваў. ***Аляксандр.***

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Казка пра чырвоную cтужачку**" (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*
5 лютага, чацвер, – у 11:00

"**Хітрыкі мадам завірухі**" (музычная казка), *Людміла Вайнова*
10 лютага, аўторак, – у 11:30

"**Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў**" (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
24 лютага, аўторак, – у 10:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), Ніл Сайман
30 студзеня, пятніца, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-паэтычны спектакль)
4 лютага, серада, – у 15:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
5 лютага, чацвер, – у 19:00

"**Каб вы жылі...**" (драма ў 2-х дзеях), *Міхаіл Каломенскі*
10 лютага, аўторак, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-паэтычны спектакль)
11 лютага, серада, – у 16:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
13 лютага, пятніца, – у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
19 лютага, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-паэтычны спектакль)
20 лютага, пятніца, – у 15:00

"**Шукаю сапраўднага мужчыну**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
22 лютага, нядзеля, – у 17:00

"**Не такі, як усе**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*
24 лютага, аўторак, – у 19:00

"**Любоў па-італьянску**" (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), Эдуарда дэ Філіпа
25 лютага, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-паэтычны спектакль)
28 лютага, субота, – у 11:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | | 5 | | | | |
| | 9 | 2 | 4 | | | 6 | | |
| | 4 | | | | 3 | | | 7 |
| | | | 1 | | | 8 | | |
| | 2 | 9 | | | | 3 | 6 | |
| | | 3 | | | 6 | | | |
| 9 | | | 6 | | | | 4 | |
| | | 4 | | | 1 | 5 | 8 | |
| | | | | 2 | | | 9 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгоды "**Цімур і каманда**" (Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
31 студзеня – у 10:00
Цана білета: 10 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды "**Снежная каралева 2: Перазамарозка**", 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1 лютага – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыйная камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**", 3D (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 лютага – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (Францыя, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
30 студзеня – у 17:00
1 лютага – у 15:00
5 лютага – у 17:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, сямейны "**Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
30 студзеня, 2 лютага – у 19:00
31 студзеня – у 17:00
1, 4 лютага – у 21:00
5 лютага – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Астэрыкс: Зямля багоў**", 3D (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
31 студзеня – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Гістарычная драма "**Зыход: Цары і багі**", 3D (ЗША, Іспанія, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
31 студзеня – у 19:00
3 лютага – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Ёлкі махнатыя**", (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 студзеня – у 15:00
4 лютага – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Трылер, крымінал, драма "**Рабаванне па-амерыканску**", (ЗША, Расія, 2014, пасля 16 год)
30 студзеня, 2 і 3 лютага – у 21:00 (цана білета: 45 000 рублёў)
31 студзеня – у 22:00 (50 000 рублёў)
1, 4 лютага – у 19:00 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Фэнтэзі, баявік "**Узыходжанне Юпітар**", 3D (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5 лютага – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Казка "**І я там быў**" (Расія, 2015)
30, 31 студзеня – у 17:30
31 студзеня – у 15:30
1 лютага – у 14:30
1 лютага – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Драма "**Трэба жыць**" (Беларусь, 2014, пасля 16 год)
31 студзеня,
3, 4 лютага – у 19:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя "**Прыгажуні ў Парыжы**" (Францыя, 2013, пасля 18 год)
31 студзеня, 2 і 4 лютага – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Ракавая жарсць**" (ЗША, 2013, пасля 16 год)
30 студзеня, 3 лютага – у 21:30
1 лютага – у 18:30
5 лютага – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыйная меладрама "**Кахаю тваю жонку**" (Канада, 2013, пасля 16 год)
30 студзеня – у 19:30
1 лютага – у 21:30
5 лютага – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

Фота kinopoisk.ru

**Кадр з фільма "Кахаю тваю жонку".**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Казка "**І я там быў**" (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30 студзеня, 4 лютага – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Трылер "**Мерзлая зямля**" (ЗША, з 16 год)
30 студзеня, 1, 4 лютага – у 20:30
31 студзеня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Тарзан**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
31 студзеня, 1 лютага – у 14:30
Цана білета – 15 000 рублёў

Прыгоды "**Прыгоды паляўнічага на драконаў**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
31 студзеня – у 18:00
1 лютага – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Трылер, крымінал, драма "**Рабаванне па-амерыканску**" (2D, ЗША, Расія, з 16 год)
30 студзеня, 1 лютага – у 18:00
31 студзеня – у 21:00
4 лютага – у 20:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, сямейны "**Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы**" (2D, ЗША, Вялікабрытанія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30 студзеня – у 20:00
31 студзеня – у 19:00
1 лютага – у 20:00
Цана білета – 45 000 руб.

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
31 студзеня – у 14:00
1 лютага – у 16:00
25 студзеня – у 16:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя "**Ёлкі махнатыя**" (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
31 студзеня – у 17:00
1 лютага – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**" (3D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
4 лютага – у 18:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Канёк-гарбунок**" (чароўная казка), *П.Яршоў*
1 лютага – у 12:00

"**Маша і мядзведзь**" (народная казка), *В.Швэмбергер*
8 лютага – у 12:00

"**Снежная каралева**" (чароўная казка), *Г.Х.Андэрсен*
15 лютага – у 12:00

"**Храбры кравец**" (музычная казка), *Браты Грым*
22 лютага – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**,
**76-84-27**.
УНП 600136804

## ГАРАСКОП
**30 СТУДЗЕНЯ-5 ЛЮТАГА**

**Авен.** Развівайцеся духоўна, працуйце над сабой, жывіце з максімальнай аддачай, каб атрымаць цудоўныя вынікі. Нябесная сфера не застанецца ў даўгу.

**Цялец.** Адкрыюцца новыя перспектывы, магчымасці, і вы зможаце напоўніцу раскрыць свой талент. Палепшыцца фінансавы стан, а трошкі пазней можна разлічваць на значнае павелічэнне даходаў.

**Блізняты.** "Пасяліцце" ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказваць ў патрэбным месцы ў патрэбны час.

**Рак.** Добра было б змяніць абстаноўку, а заадно і абмежаваць зносіны з тымі, хто выклікае ў вас антыпатыю – гэта дапаможа захаваць душэўную раўнавагу.

**Леў.** Не прыспешвайце падзеі, бо вам будзе падзяка за доўгае цярпенне, яны парадуюць вас такімі прыемнымі наступствамі, аб якіх вы нават і не марылі.

**Дзева.** Вы судзіце людзей, вырашаеце, хто з іх робіць добра, а хто нешта не так. Але ацэньваеце па сваіх вагах, якія не абавязкова з'яўляюцца эталоннымі. Такая пазіцыя можа выклікаць канфлікты, і вы будзеце не ў самай лепшай выйгрышнай пазіцыі, хоць і ўпэўненыя ў сваёй праўдзе. Прыслухоўвайцеся да сваёй інтуіцыі, яна вам шапне, дзе вы мелі рацыю, а дзе не.

**Шалі.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца як бяссонніца, прастудныя захворванні, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.

**Скарпіён.** Шмат што залежыць ад таго, ці здольныя вы аддацца лёсу абсалютна, адмовіцца ад барацьбы з непазбежным. Гэта зэканоміць вам сілы і фізічныя, і душэўныя.

**Стралец.** Вы можаце ўвасобіць у жыццё самыя смелыя планы і жаданні. Галоўны ваш вораг – сумненні. Пераадолеўшы іх, усё збудзецца.

**Казярог.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца.

**Вадалей.** Вас чакаюць новыя знаёмствы і сустрэчы, нешта такое, ад чаго вы будзеце ну проста ў захапленні.

**Рыбы.** У вас не хапае веры ў сябе, у тое, што вы шмат што можаце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

## НАДВОР'Е

### 31 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / 0 | | +2 / +4 | | +5 / 0 | | -2 / -1 | |
| | 723 | ↖ 6 | 717 | ↖ 5 | 717 | → 10 | 727 | ↑ 3 |
| Вільня | -1 / 0 | | +3 / +5 | | +5 / 0 | | -2 / -1 | |
| | 729 | ↖ 6 | 724 | ↖ 3 | 726 | → 8 | 735 | ↑ 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 9.02, Захад 17.50, Даўжыня дня 8.48

Усход 14.52, Захад 6.14, Квадра 2

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +1 / +2 | 724 | ↖ 4 |
| Гродна | +1 / +2 | 722 | ↖ 2 |
| Мінск | +2 / +4 | 717 | ↖ 5 |
| Магілёў | +1 / +4 | 727 | ↖ 7 |
| Брэст | +2 / +4 | 720 | ↙ 1 |
| Гомель | +3 / +7 | 732 | ↖ 8 |

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Вілейка**

- Мінімальная тэмпература -34,6 °C у 1956 годзе
- Максімальная тэмпература +4,6 °C у 1989 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 10,4 мм у 1965 годзе

Назіранні за 59 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

**Не прапусціце ўнікальны матэрыял у наступным нумары: спіс стаматалагічных цэнтраў і кабінетаў рэгіёна і паслугі, якія яны аказваюць.**



### ПРОСТА АНЕКДОТ

– Што вас турбуе, калега?

– Толькі тое, што ў мяне няма грошай.

– Не разумею, як вас можа турбаваць тое, чаго няма?

***

Выкладчык студэнту:

– Вы не здалі. Прыйдзеце на пераздачу.

– У мяне па гараскопе сёння ўдача ў справах. Хто вы такі, каб спрачацца з зоркамі?

***

– Як называецца тая штука, дзе запісаны ўсе тваe самыя таемныя мары і жаданні:

– Крымінальны кодэкс.

**Аддзел інфармацыі.**



### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## З кім са знакамітых асоб Беларусі або іншых краін вы хацелі б сустрэцца?

**Яўген Язневіч, навучэнец:**

– Хацелася б сустрэцца з Міхаілам Грабоўскім. Цікава б было паразмаўляць пра хакей, пра яго трэніроўкі. Я сам гуляю ў аматарскай камандзе, таму мне цікава гэта.

**Наталля Бажко, станочніца:**

– Цяпер ідзе будаўніцтва ўласнага дома, таму хацелася б сустрэцца з вядомымі архітэктарамі. Яны б маглі расказаць многа цікавага пра праекты дамоў, пра новыя тэхналогіі. Таксама люблю глядзець перадачу "Сядзіба". Там паказваюць вельмі прыгожыя пабудовы.

**Баратаў Уладзіслаў, навучэнец:**

– Мне цікавая асоба Вадзіма Роліча. Гэта вядомы беларускі баец. Цікава б было даведацца пра тое, як ён трэніруецца, як дасягнуў высокіх вынікаў у спорце. Я сам займаюся тайскім боксам, таму мне цікавыя людзі, якія займаюцца гэтым відам дзейнасці.

**Антон Буры, навучэнец:**

– Я сустрэўся б з Прэзідэнтам нашай краіны. Вельмі хацеў бы паразмаўляць пра тое, дзе можна прайсці практыку, куды пасля навучання размеркавацца. У мяне рэдкая спецыяльнасць абліцоўшчыка-плітачніка.

**Ангеліна Фелістовіч, маладая мама:**

– Я хацела б сустрэцца з Прэзідэнтам Расіі – Уладзімірам Пуціным, каб пагаварыць пра сітуацыю на Украіне.

**Аксана Мікша, маладая мама:**

– У мяне нядаўна нарадзілася дачка. Таму цяпер мяне хвалюе толькі яе здароўе, дабрабыт маёй сям'і. Таму на знакамітых асоб няма часу.

**Яўген Каросцік, аператар дрэваапрацоўчага станка:**

– Хацеў бы сустрэцца з Кастусём Каліноўскім. Спытаў бы ў яго, ці не шкадуе ён, што ахвяраваў жыццём дзеля нашай свабоды, калі б убачыў, што адбываецца цяпер у краіне.

**Падрыхтавалі Галіна СІНІЦА, Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 5 (1031) 30.01.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 118. Падпісана ў друк у 9.00 29.01.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.